



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

14 ВЕРАСНЯ 2001г. № 37/4121 КОШТ 132 РУБ.




## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 750 рублёў, на тры — 2250 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2000 рублёў, на тры - 6000 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

***У Мінску туман вераснёвы***
***Над Свіслаччу ціха плыве,***
***Нібыта пяшчотныя словы,***
***Нібыта Твой цень на траве...***

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*



## КОЛА ДЗЁН

***Пра гэтую падзею пісалі і гаварылі надзвычай шмат цягам некалькіх апошніх месяцаў. Розныя людзі звязвалі з ёю розныя спадзяванні. Адны спялілі спадзеў, што ў выніку яе краіна выкіруецца ўрэшце на іншы, больш цывілізаваны і перспектыўны шлях, іншыя па даўняй, яшчэ савецкай, звычцы цешылі сябе надзеяй, што горш не будзе, прасілі Бога, каб усё засталося так, як ёсць, бо ад дабра дабра не шукаюць, галоўнае — абы не было вайны.***

***І вось падзея гэтая адбылася — выбары прэзідэнта Беларусі прайшлі. Прайшлі — і, як пісаў паэт, ціха на зямлі і ў небе. Першыя — разгубленыя і расчараваныя, другія, іх аказалася бальшыня, таксама не б'юць у літаўры і не заходзяцца ад шчасця і радасці. Зрэшты, а чаго лікаваць? Усё адбылося як след, як і павінна было адбыцца, паўсюль усё тое ж і тыя ж, жыццё, няхай не надта багатае, але затое ціхамірнае, без катаклізмаў і скрутаў, працягваецца.***

***Праўда, у аўторак наш памяркоўны і надта ж талерантны люд агаломшыла жахлівая, нечуваная трагедыя, што адбылася ў Амерыцы. А ў сераду, увечары, БТ прынесла ў кватэры і хаты, на здаровы і глыбокі сон, навіну аб перастаноўках у кіруючых структурах, што наўрад ці выклікала ў каго-небудзь сумненні ці іншыя эмоцыі — людзі вераць, што як дагэтуль, гэтак і зараз наверсе не памыляюцца…***

### ПАКАЗЧЫКІ ТЫДНЯ

Навука, як даказвае сусветная практыка, самая выгадная сфера інвестыцыі сродкаў. У развітых краінах, як правіла, адносна высокая (2-3 працэнты) навукаёмістасць унутранага валавога прадукту. А ў нас? У 1999 годзе навукаёмістасць нашага ВУПу складала 1,1 працэнта. Мала? Няшмат, вядома. Аднак жа можна й суцешыцца: гэта трэці (пасля Расіі і Украіны) паказчык сярод краін СНД. Па прагнозах спецыялістаў, ён павінен павялічыцца да 2015 года да 2,7-3 працэнтаў. Толькі ж — ці павялічыцца? Пакуль што вельмі сумнеўна. Для сумневу даюць падставы іншыя паказчыкі. Дактароў і кандыдатаў навук рыхтуецца ў краіне нібыта й нямала, у гэтай справе назіраецца апошнія два-тры гады нават рост, але многія з іх шукаюць месца прыкладання сваіх сіл і ведаў за мяжой, а ў выніку сярэдні ўзрост кандыдатаў і дактароў практычна не памяншаецца, застаючыся ў межах 50 гадоў для першых і 60 — для другіх. А такі ўзрост, на жаль, практычна бесперспектыўны…

### ПАРАДОКС ТЫДНЯ

Інтэрфакс распаўсюдзіў вынікі ўсерасійскага апытання насельніцтва адносна ведання расіянамі Беларусі. Вынікі аказаліся проста парадаксальнымі: людзі ў гарадах і весях Расіі надзвычай мала дасведчаныя адносна Беларусі і беларусаў, хоць і не стамляюцца гаварыць аб дружбе, адзінстве, роднасці і г. д. Так, чвэрць расіян не ведаюць нават таго, што сталіцай Беларусі з'яўляецца Мінск. А ўвогуле веданне імі сястры-суседкі не выходзіць за межы абыходкавага: Беларусь — гэта Брэсцкая крэпасць, трактар "Беларусь", халадзільнік "Мінск", "Славянскі базар"…

### МІЛЬЁН ТЫДНЯ

Паводле афіцыйных звестак (пакуль што папярэдніх), за А. Лукашэнку прагаласавалі 75,62 працэнта выбаршчыкаў, за У. Ганчарыка — 15,39 працэнта, за С. Гайдукевіча — 2,48 працэнта. Адрыў першага ад другога — занадта вялікі. А калі ў рэальных лічбах колькасці выбаршчыкаў? А. Лукашэнку на выбарах падтрымалі 4 мільёны 652 тысячы 453 чалавекі, У. Ганчарыка — 946 тысяч 685 чалавек. Розніца, зноў жа, вялікая, аднак амаль мільён грамадзян, якія свядома падтрымалі альтэрнатыўнага кандыдата, — гэта досыць сур'ёзна. Гэта тое, што дае надзею апазіцыі, і што абавязвае ўлады лічыцца і з гэтай — зусім немалой! — часткай насельніцтва…

### НАВАСЕЛЛЕ ТЫДНЯ

Ёсць на захадзе Беларусі, пры самой мяжы з Польшчай старадаўні і адмысловы гарадок з добрай, светлай назваю Высокае ("ЛіМ" пісаў пра яго летась). Гарадок хоць і старадаўні, ды занядбаны, найперш, бадай, з тае прычыны, што чатыры дзесяцігоддзі назад страціў статус райцэнтра і ператварыўся ў пазаштатны гарадскі пасёлак. Але жывуць там людзі-патрыёты, яны любяць і дбаюць аб сваім Высокім месту, і штогод ладзяць у маляўнічым парку на беразе плыткай Пульвы дзень свайго горада. Сёлетні дзень Высокага быў адзначаны наваселлем — пасля задоўжанага рамонту-рэстаўрацыі адчыніўся абноўлены да непазнавальнасці гарадскі Дом культуры. Малазначны факт? Як сказаць! У наш час адкрыццё новага асяродка культуры — факт радасны і важны не толькі для жыхароў далёкага ад сталіцы гарадка…

### МАЗ ТЫДНЯ

Амаль на 10 працэнтаў у параўнанні з леташнім годам павялічыў выпуск прадукцыі сёлета Мінскі аўтазавод. За 8 месяцаў з яго канвеера сышлі амаль 10 тысяч машын, больш за 2 тысячы прычэпаў і 280 аўтобусаў. Многа гэта ці мала? Па колішніх — савецкіх — мерках, дык мала, вядома, а па сённяшніх — дык і поспех, прытым досыць вялікі. І яшчэ адзін паказчык гэтага поспеху: амаль 90 працэнтаў прадукцыі МАЗа ідзе на экспарт. Дык, можа, не выжываюць, а — жывуць аўтазаводцы?!

### БАЕЧКА ТЫДНЯ

БЕЛТА распаўсюдзіла такую вось інфармацыю: "Да 1 кастрычніка гаспадаркі краіны павінны закончыць пад'ём ільнотрасты. Такую задачу перад імі паставілі Мінсельгасхарч і навукова-вытворчае аб'яднанне "Лён Беларусі". За гэты час, як сцвярджаюць спецыялісты, ільнотраста павінна добра вылежацца ў полі, некалькі разоў прайсці пераварочванне як уручную, так і спецыяльнымі машынамі, што ў выніку паўплывае на якасць валакна…" Прамілы Божа, на каго гэта разлічана?

### "РУХНАМА" ТЫДНЯ

Прэзідэнт Туркменістана Сапармурат Ніязаў скончыў працу над духоўным кодэксам туркменскага народа "Рухнама". Назва кнігі складаецца з двух слоў — "рух" (душа) і "нама" (пісьмо) і перакладаецца як "Духоўная канстытуцыя туркменаў", ці "Праграма духоўнага развіцця нацыі", альбо "Звод маральна-этычных запаведзяў". Аб усім рупіцца Сапармурат Ніязаў, "бацька туркменаў", дайшла чарга і да клопату пра душу нацыі. Толькі вось жа ўсё гэта нешта надта блізка нагадвае. Ці не забыты ўжо колішні маральны кодэкс будаўніка камунізму?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У Літаратурным музеі г. Віцебска адбылося святкаванне 75-гадовага юбілею пісьменніка Аляксандра Пухаева. Вечарыну адкрыў і вёў старшыня абласнога аддзялення СБП Франц Сіўко.

Мясцовыя ўлады адзначылі важкі ўклад Аляксандра Пухаева ў развіццё беларускай культуры і ўзнагародзілі юбіляра Ганаровай граматай. Намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктар Праўдзін таксама ўручыў Аляксандру Пухаеву Ганаровую грамату і ў вітальным слове да юбіляра звярнуў увагу прысутных не неардынарнасць творчага шляху паэта, які пераклаў з беларускай мовы на асецінскую Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, які і сёння аддана працуе на культуру дзвюх дзяржаў.

Паэт Ганад Чарказян зрабіў юбіляру падарунак: акрамя цёплых слоў, ён ад імя выдавецтва "Мастацкая літаратура", тут жа, на вечарыне, заключыў з А. Пухаевым дамову на выданне кнігі "Нёман і горы".

Шчыра віталі юбіляра Алег Салтук, Давід Сімановіч, Барыс Беляжэнка, Анатоль Канапелька, Міхась Міраловіч, Святлана Казлова і Галіна Данілава.

**Н. К.**

### Сябраваць — значыць перакладаць

9 верасня Саюз беларускіх пісьменнікаў наведалі госці з братняй славянскай краіны — Славакіі. Да беларускіх калег прыйшлі старшыня Саюза славацкіх пісьменнікаў Ян Тужынскі і сакратар гэтага саюза Павал Янік. З беларускага боку на сустрэчы прысутнічалі намеснікі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч і Віктар Праўдзін, пісьменнікі Сяргей Законнікаў, Алесь Пісьмянкоў, Іван Чарота, Яўген Каршукоў, Павел Вераб'ёў, Людміла Рублеўская. На сустрэчы гаварылася пра сітуацыю, у якой апынуліся майстры прыгожага слова ў сваіх краінах, пра праблемы кнігавыдання і дзяржаўнай фінансавай падтрымкі. Высветлілася, што праблемы ў нас у многім аднолькавыя. Ёсць і адрозненні — напрыклад, у Славакіі сёння дзейнічае сем саюзаў пісьменнікаў.

На сустрэчы было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве між беларускімі і славацкімі пісьменніцкімі арганізацыямі. Першым крокам у гэтым супрацоўніцтве мусіць стаць выданне анталогій беларускай паэзіі і прозы ў перакладзе на славацкую мову і, адпаведна, славацкай паэзіі і прозы ў перакладзе на беларускую мову. Госці і гаспадары шмат гаварылі пра неабходнасць цесных сувязяў між нашымі братнімі культурамі, пра ўзаемадапамогу і разуменне між творчымі людзьмі, без чаго нацыянальным культурам цяжка выжыць у сённяшнім прагматычным свеце.

**Н. К.**

### Падведзены вынікі

З 1 студзеня па 1 ліпеня г. г. ішлі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў важкія канверты з творамі. У рэспубліканскім адкрытым конкурсе на лепшую п'есу для дзяцей удзельнічалі як прафесіяналы, так і аматары — школьнікі, студэнты, выкладчыкі, выхавацелі садкоў, работнікі культуры. Па некалькі драматургічных твораў прыйшло з Віцебска і Маладзечна, Клецка і Кобрына, Чавусаў і Ганцавічаў, Оршы і Бабруйска. Найбольш актыўна праявілі сябе навучэнцы з Карэліцкага, Лідскага, Круглянскага раёнаў, а таксама студэнты Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

На пачатку верасня журы падвяло вынікі творчага спаборніцтва. Вызначаны пераможцы і прызёры, удзельнікі конкурсу атрымаюць дыпломы Міністэрства адукацыі РБ.

Нагадаем, што конкурс праходзіў пад дэвізам "На цябе, наша моладзь, надзея" і быў сумесным праектам. Асноўныя фінансавыя выдаткі ўзялі на сябе міністэрствы культуры і адукацыі, а ўвесь арганізацыйны клопат лёг на секцыю драматургіі СБП.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны на ўрачыстай вечарыне, якая адбудзецца ў канцы верасня — пачатку кастрычніка ў Доме літаратара.

**Галіна ЗІНКЕВІЧ**

# Успомнілі класіка

*Першага верасня ў парку Горкага* адбылося мерапрыемства, прысвечанае народнаму пісьменніку Беларусі Якубу Коласу.




Пачалося свята беларускай фальклорнай музыкай, якая праз некалькі хвілін сабрала вакол сцэны вялізны натоўп. Сюды прыйшлі намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін, паэт і літаратуразнаўца Іван Курбека, навучэнцы Мінскага педкаледжа № 1.

Вучоны сакратар музея Ганна Зайцава павіншавала настаўнікаў, вучняў і ўсіх, хто мае дачыненне да адукацыі, з Днём ведаў. Малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч расказаў пра бацьку, згадаў цікавыя моманты з сямейнага жыцця. Выступілі на свяце навучэнкі МДПК № 1 Ганна Кананові і Вікторыя Курбека, якія чыталі творы Я. Коласа, а таксама свае вершы, прысвечаныя Беларусі.

Іван Курбека, які працуе ў музеі Я. Коласа, расказаў пра педагагічны талент Я. Коласа, пра сваю працу ў музеі, а напрыканцы выступлення павесяліў аўдыторыю сваімі гумарыстычнымі вершамі.



Урачыстасць закончылася выступленнем сяброў Коласавага дома — фальклорнай групай дзіцячага садка № 266, кіраўніком якой з'яўляецца Вольга Бароўская.

**Валерый ЗМІТРОВІЧ,**
**навучэнец МДПК № 1**
*Фота Алеся ФЕДАРЭНЧЫКА*

# Сінтэз паэзіі, музыкі і…

6 верасня ў зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі, што месціцца ў касцёле св. Роха, адбылася паэтычна-музычная імпрэза, арганізаваная Інстытутам Гётэ. На гэты раз сустрэліся паэзія слыннага беларускага паэта Алеся Разанава і музыка нямецкага кампазітара Готлаба фон Врохэма. Кампазітар стварыў музычную інтэрпрэтацыю паэмы Алеся Разанава "Калодзеж", якую чуў на літаратурнай вечарыне ў Нямеччыне, дзе цяпер працуе Алесь Разанаў. Паэма так уразіла кампазітара (дарэчы, шырокавядомага ў Еўропе), што натхніла на стварэнне музыкі.

А музыка была сюрпрызам не толькі для слухачоў, але і для Алеся Разанава, які чуў яе выкананне ўпершыню. Як патлумачыў сам Готлаб фон Врохэм, гэта яго падарунак беларускаму паэту. Хаця асноўным інструментам для выканання паслужыў традыцыйны канцэртны раяль, але музыка належала да жанру так званай канцэптуальнай музыкі, і для здабывання гукаў выкарыстоўваліся не толькі чорна-белыя клавішы, але і шкляныя шарыкі, металёвыя палачкі і т. п. Паэзія Алеся Разанава, як вядома, адрозніваецца інтэлектуальнасцю, філасафічным асэнсаваннем рэчаіснасці. Кампазітар дадаў да гэтага экспрэсіяністычнай музыкі. У выніку атрымалася ўражлівае дзейства — як сказаў у сваім заключным слове Алесь Разанаў, яно нагадвала дзейства ў лабараторыі алхіміка.

Мінская публіка — але сабраліся ў зале касцёла святога Роха ў асноўным прадстаўнікі творчай эліты, а таксама нямецкія госці, супрацоўнікі Інстытута Гётэ, мела магчымасць далучыцца да гэтага незвычайнага дзейства, паглыбіцца ў яго і стацца ягонай часткай. Таму што сінтэз слова, музыкі, інтэр'ера касцёла з яго псеўдабарочнай скульптурай, рэакцыі публікі стварыў уражлівы, апакаліпсічны, па словах аднаго з выступоўцаў, артэ-факт.

Прыемна, што беларуская паэзія ўваходзіць у канткэкст сусветнай культуры, што на Беларусі адбываюцца падобныя імпрэзы.

**Н. К.**

### У газету "Літаратура і мастацтва"

***Дзякую ўсім, хто павіншаваў мяне з днём майго 95-годдзя, за іх добрыя пажаданні. Жадаю ўсім, хто мяне павіншаваў, усім чытачам "ЛіМа" перажыць мой узрост на шмат гадоў пры добрым здароўі і спрыяльных жыццёвых умовах.***

**З нізкім паклонам І. ДУБРОЎСКІ**

***Шчыра дзякую ўсім, хто ўспомніў пра маё 65-годдзе і выказаў мне добрыя адносіны і пажаданні.***

**Генадзь БУРАЎКІН**



**ЧАСАПІС**

## *Кніжныя выставы, прысвечаныя Рымскаму*

**У дзвюх вядомых установах Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ладзяцца прадстаўнічыя выставы апублікаваных прац буйнога вучонага ў галіне кібернетыкі і інфармацыйных тэхналогій, паэта, перакладчыка, члена-карэспандэнта НАН Беларусі і члена Саюза беларускіх пісьменнікаў Генадзя Рымскага.**

**23 жніўня, у першую гадавіну памяці Г.Рымскага, генеральны дырэктар навукова-даследчага аб'яднання "Кібернетыка" НАН Беларусі акадэмік, лаўрэат Дзяржпрэміі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі В.Танаеў адкрыў у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі (вул. Сурганава, 6) вялікую выставу яго навуковых і паэтычных твораў.**

**Прадстаўлены ўсе манаграфіі, пераважная большасць брашур, зборнікаў навуковых прац, матэрыялаў канферэнцый, аўтарскіх пасведчанняў на вынаходствы новых прылад і сістэм, а таксама паэтычныя кнігі, выдадзеныя ў Маскве і Мінску, — "Белорусская лирика XIX–XX веков", "Я есть!", анталогіі беларускай лірыкі і паэзіі, шматлікія публікацыі ў часопісе "Нёман", іншых перыядычных выданнях, нарысы, артыкулы аб літаратурным дараванні Г.Рымскага.**

**На адкрыцці прысутнічалі ўдава М.Рымская, сын Аляксандр, дачка Алена, якая прыляцела з ЗША, унукі, сястра Ю.Быстрова, супрацоўнікі Вышэйшага атэстацыйнага камітэта РБ, НДА "Кібернетыка", Інстытута літаратуры імя Я.Купалы, яго вучні. Цёплыя словы пра вучонага, педагога, заснавальніка і кіраўніка навуковай школы, таленавітага паэта выказалі в.а. загадчыка лабараторыі А.Несянчук, нам.старшыні ВАКа В.Шаршуноў, начальнік аддзела ВАКа Я.Карабко, загадчык аддзела Інстытута літаратуры В.Жураўлёў, намеснікі дырэктара ІТК НАН Беларусі У.Махнач, С.Абламейка, У.Анішчанка, прарэктар Інстытута кіравання В.Табаравец, дацэнт БДУІР С.Дрозд, вядучы навуковы супрацоўнік У.Сыч, кіраўнік службы маркетынгу А.Нікіфараў, А.Рымскі.**

●

**З 13 верасня, да 65-годдзя з дня нараджэння Г.Рымскага, Цэнтральная бібліятэка імя Я.Коласа НАН Беларусі арганізуе ў зале новых паступленняў выставу матэрыялаў аб жыццёвым і творчым шляху Г.Рымскага. Адкрыццё адбудзецца 14 верасня ў 11–30 з удзелам літаратараў, вучоных Акадэміі навук і ВНУ, яго вучняў і родных.**

●

**У вялікай зале Дома літаратара 19 верасня (пачатак у 18 гадзін) запланавана правядзенне паэтычнай вечарыны і прэзентацыя апошніх літаратурных кніг Генадзя Рымскага з удзелам паэтаў Беларусі і Масквы.**

**Мікола САВІК**

## *Мінск — сённяшні*



*На здымку: Верхні горад.*

*Фота А. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

СПАДЧЫНА

# Карані майго роду

У самым пачатку 2001 года нарадзіўся мой унук Уладзіслаў Лайкоў. Ён пакуль яшчэ не ведае, што роўна тысячу год назад узнік старажытны горад Друцк. Уладзіслаў, як і другі мой трохгадовы ўнук Павел, прыйшоў на родную зямлю колішняга Друцкага княства, каб працягнуць у будучае друцкія карані майго радаводу. Хутка падрастуць унукі, непрыкметна праляціць той час, калі Павел і Уладзіслаў будуць пытацца ў мяне: хто яны, адкуль? Куды і як трэба імісці далей? Думаю пра гэта часта і многа. Успамінаю расказы самых блізкіх людзей: бацькі, маці, бабулі, дзядзькі, цёткі. Чытаю старонкі гісторыі Крупскага, Барысаўскага, Талачынскага раёнаў, адсочваю самыя цікавыя і неабходныя эпізоды, гады і стагоддзі знакамітага Друцкага княства.

Таму збіраюся ў няблізкае падарожжа разам з унукамі. Але перш-наперш прысядзем усе разам за сталом у старым садзе, што ў маёй ужо роднай Мётчы. Побач будзе шапацець лістотаю магутны прыгажун-вяз. З гонарам і з усёй гістарычнай адказнасцю вынесу я з хаты бясцэнную рэліквію ўсяго роду Лайковых — самавар. Якраз у гэтым 2001 годзе яму 105 гадоў. Пацягвалі часцяком духмяную гарбату з тульскага старажыла ажно шэсць каленаў нашага роду. Будзе студзіць мятны водар кіпеню пад смалісты пах лучынак мая дачка Алена. Гэта яна са сваім мужам Аляксандрам ужо паспела парадаваць нас любімымі ўнукамі. А перадусім — паспяхова з сярэбраным медалём закончыла нашу мядоцкую школу, а яшчэ праз пяць год — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вырасла яна, дзякаваць Богу, праўдзівай, добразычлівай, працалюбівай, навучылася з вялікім цярпеннем пераносіць усе складанасці жыцця.

Шклянку мятна-звярабойнай гарбаты будзе побач смакаваць мой дваццацідвухгадовы сын Янка. Ён бачыць жыццё і свет крыху іншымі вачыма, чым усе мы астатнія. Яго мроі і згадкі усё больш ірэальныя, напоўненыя містычнымі вобразамі нашага Космасу. Ці не таму ён часцей за ўсе задумлівы ці, як некаму можа здацца, сумны. У гэтым 2001 годзе Янка быў названы лепшым беларускім маладым паэтам.

Змярканне лепіць цень да столі.

***Малы, цягнуся, каб схапіць***
***ружовы бохан спелай поўні,***
***на срэбры пальцы сашчапіць.***
***І песціць стомленыя вочы***
***спакой маленькага сынка.***
***Ужо змяніў світанак ночку,***
***а матчына не спіць рука.***

Янка прысвяціў гэтыя радкі сваёй любімай маці, Любові Фёдараўне. Яна сёлета адзначае залаты юбілей. А нарадзілася мая жонка і гаспадыня ў засценку Калінаўка Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Дарэчы, як гісторыя яе родных мясцін, так і небезвядомы род Хромчанкаў (яе дзявочае прозвішча) патрабуе асобнай немалой размовы.

Я разам з Любай на пачатку сямідзесятых гадоў вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. На апошнім месяцы вучобы мы пабраліся шлюбам. Сабралі поўную саўгасную "лятучку" сяброў-студэнтаў і тры дні і тры ночы ў маёй роднай вёсцы Астроўкі гулялі вяселле. Ужо чвэртка стагоддзя мінула, а здаецца гадам не хочацца. Сябры тыя нашы — Штэйнеры Іван і Света, Зяньковічы Іван і Света і сыны іх Алёша, Дзіма і Валодзя прыязджаюць часта да нас у госці, наведваем іх у Гомелі і Мінску і мы...



Мінулі два гады, як мой родны бацька Піліп Рыгоравіч пайшоў у васьмідзесяцітрохгадовым узросце з жыцця. Боль цяжкай страты хоць і прытупіўся, але часта вяртаецца зноў і зноў. Бацькава дабрыня, лагода, спакойны вытрыманы нораў, яго любоў да нас, сваіх дзяцей і ўнукаў, у рэшце рэшт, яго нялёгкі жыццёвы лёс, крочаць заўсёды ў нашым жыцці побач. Бацькава прысутнасць адчуваецца амаль штодня.

Жыццёвы лёс майго бацькі — гэта адбітак беларускага народнага жыцця амаль усяго мінулага дваццатага стагоддзя. Яго бацькі нарадзіліся і жылі ў другой палове XIX і ў першай палове XX стагоддзя. Менавіта яны на Бобрскім кірмашы ў канцы 1896-га і купілі наш слаўнуты самавар. Марыя Ціханаўна (1869—1952) і Рыгор Ларывонавіч (1868—1950) Лайковы з вёскі Харытанцы пераехалі жыць бліжэй да вёсак Навасёлкі і Астроўкі. Тады пасля вядомай сталыпінскай аграрнай рэформы ў 1910 годзе разбураліся вясковыя абшчыны, зямля перадавалася ва ўласнасць сялянам, а іх гаспадаркі перадзяліся на водрубы ці хутары. Так узнік і потым існаваў да часоў гвалтоўнай калектывізацыі Лайкоў хутар. Нарадзіліся сыны Дзяніс (1900 г.), Іван (1902 г.), Аляксандр (1904 г.), Уладзімір (1907 г.), Леанід (1912 г.), Піліп (1916 г.), дочкі Ганна (1913 г.), Шура (1915 г.). Спачатку сталінская калектывізацыя, а потым войны з фінамі і немцамі парушылі хутарскі працоўны і сямейны ўклад, загубілі жыцці ўсіх маіх дзядзькоў.

Амаль дзесяць гадоў свайго жыцця (1936—1945 гг.) бацька аддаў спачатку войску, а потым войнам. Хаця і страціў на вайне вока, але адзіны з братоў застаўся жыць і вярнуўся дадому. За год-другі крыху паднабраўся моцы. Спачатку схадзіў ненадоўга ў прымакі. Потым сустрэў у вёсцы Хватынка Валянціну, маю маці, якая таксама схадзіла замуж у суседнія талачынскія Бутары, дзе нарадзіла 15 красавіка 1949 года свайго першынца Валерыя, старэйшага майго брата — Валерыя Курчава (жыве ў Мінску і працуе настаўнікам роднай мовы і літаратуры). У 1952 годзе Піліп і Валянціна ўзялі шлюб. А ўжо ў наступным годзе 4 мая ў сям'і Лайковых нарадзіліся двайня: я і Міша, які ўбачыў белы свет пазней за мяне на трыццаць мінут. А яшчэ праз тры гады нарадзіўся трэці мой брат — Яўген. У той, 1956 год, майму бацьку споўнілася 40 год.

Бацька ўсё пасляваеннае жыццё аж да самага выхаду на пенсію працаваў саўгасным конюхам. Ужо потым, калі я паехаў самым першым з усіх нашых невялічкіх Астровак у Мінск набываць вышэйшую адукацыю, узяў у "ленінцы" слоўнік асабовых імёнаў, знайшоў імя Піліп... І не паверыў сваім вачам. У старажытнагрэчаскай мове імя Піліп атрымлівае чалавек, які вельмі любіць коней. А як любіў іх бацька — пра гэта можна пісаць не толькі вершы, але і раманы. Ці не таму сёння, калі нават ненаўмысна недзе ад тваіх слоў і паводзінаў горка і балюча становіцца другім людзям, тады імгненна ўспамінаеш бацьку — і гарыш, гарыш ад сораму. І стараешся не паўтараць больш такіх памылак.

Жыў бацька заўсёды проста, ясна, адкрыта і празрыста. Меў да шаснаццаці вулляў пчол у сваім садзе, у добрыя сухія леты збіраў дастаткова мёду, бескарысна разам з маці раздаваў яго сваім родным, блізкім, знаёмым, суседзям, аднавяскоўцам, але ніколі не ўзяў ніводнай капейкі грашыма.

Адышоў бацька з жыцця ціха і няспешна ў роднай хаце, на любімай сваёй заўсёды цёплай грубцы, на другі дзень апошніх у дваццатым стагоддзі Калядаў. Мне здаецца, калі б прыйшлося быць з ім у тую хвіліну, і калі б у бацькі былі моц і час развітацца з усімі сваімі роднымі і сваякамі, то ён, несумненна, сказаў бы нам сваё апошняе "Бывайце!".. Толькі б застыла на твары недаўменне: "Як жа я без вас буду ТАМ? Як гэта я пакіну назаўсёды лясы, дарогі, гэтыя Сцяпанавы, Герасімавы, Максімавы, Аверчыхіны, Лайковы хутары? Хто сходзіць за мяне на Гарыватку і Плянтоўку, у Забор'е, Лагі, Дзяньгубку, Кіявец, Бяляны, Бобрык і Абчугу? І няўжо летам не прыйдзецца пахадзіць за баравікамі, а восенню — за апенькамі?"

Нялёгка перажывае страту свайго роднага і блізкага чалавека мая маці, Валянціна Апанасаўна Лайкова (дзявочае прозвішча — Курчова). Вось і зусім нядаўна сядзелі мы ўсе разам у Мётчы за нашым самаварам, і маці не-не і прыгадае той ці іншы выпадак з ранейшага жыцця. Напрыклад, пра першае сваё знаёмства з бацькам, пра яго працавітасць, пра яго шчырыя і сардэчныя адносіны да яе сваякоў. Сапраўды, род Курчовых у нашых карэннях друцкага радаводу асаблівы і вельмі цікавы пра што і мае сэнс пагаварыць.

А пачаць варта з яшчэ аднаго ўспаміну маёй маці. Некалькі разоў, калі яна была дзяўчынкай і жыла ў сваёй роднай вёсцы Хватынка, прыйшлося ёй, разам са сваёй маці, маёй бабуляй Маланняй, хадзіць да радзіны ў вёску Друцк. Няблізкі шлях, але і не вельмі далёкі, калі ў адзін дзень паспявалі, захапіўшы крыху прыцемку. вярнуцца назад. Старэйшыя людзі нешта чулі пра гэты самы Друцк, пра вялікую і слаўную яго гісторыю.

Асабліва цікавым і значным з яе для майго роду з'яўляецца той факт, што тагачасным трымальнікам былых уладанняў князёў Відзініцкага і Сенскага ў Худаве быў Марцін Курч. Дык вось мая дзевяностапяцігадовая бабуля Малання Сяргееўна Курчова (дзявочае прозвішча — Сапяжынская), неадройчы любіла паўтараць, што яе муж, а мой дзед Курчоў Апанас Парфёнавіч (1890—1964 гг.), які пахаваны на вядомых Маскоўскіх могілках, пераказваў родавую легенду пра аднаго свайго багатага прашчура, унук якога пасля падзелу Рэчы Паспалітай замяніў прозвішча Курч на расійскі манер. Менавіта адтуль і цягнецца род Курчовых.

Дарэчы, вось што цікава: у адным з дыярыушаў XVII стагоддзя мне яшчэ ў студэнцкія гады на вочы патрапіла прозвішча Лайковіч. Не ведаю, але чамусьці першай думкай пасля доўгага ўтрапення, было ўзнаўленне ў памяці падзей гісторыі канца таго ж XVIII стагоддзя, калі пасля трох падзелаў Беларусь была далучана да Расіі...

Дарэчы, я многа разоў, асабліва ў апошнія гады жыцця маёй амаль стогадовай бабулі Маланні, пытаўся ў яе, адкуль узялося прозвішча яе бацькі Сяргея Мікітавіча Сапяжынскага, майго прадзеда. Яна адказвала, што мой прадзед заўсёды, асабліва пры ўнуках, з гонарам называў сваіх дзядоў і прадзедаў людзьмі Івана і Льва Сапегаў...

Калі я прыязджаю ў Мінск і прыходжу на Маскоўскія могілкі, то адным разам і ў адзін дзень схіляю галаву ў задуменні ля магілаў Петруся Броўкі, Івана Мележа, Пятра Машэрава, Уладзіміра Караткевіча, Яўгеніі Янішчыц, майго роднага дзеда Апанаса Парфёнавіча Курчова. Жыў ён у Мінску, быў інжынерам з вышэйшай адукацыяй, праектаваў і будаваў караблі. Пасля яго застаўся сын Юрый. Астатніх братоў і сясцёр дзеда я не ведаю, але магу назваць імёны: Гапуля, Алена, Домна, Дарафей.

Выношу на вуліцу самую дарагую хатнюю і родавую рэліквію — наш самавар. Беражна стаўлю на стол пад старой яблыняй. Запальваю лучынкі і праз некалькі хвілінаў самавар разагравaецца: смалісты сасновы дым і мятначабаровы пах гарбаты ахінаюць маю мядоцкую сядзібу. І тады быццам збіраецца ўся наша радзіна, якая жыла стагоддзі, дзесяцігоддзі і гады таму, і тая, што сёння працягвае мой радавод. Выносяцца з хаты лаўкі і сталы.

Задаволена пыхкае стогадовы самавар, быццам бы кажа: "Жыві, мацуйся і працягвайся ў стагоддзях радаводнае дрэва нашай сям'і".

**Уладзімір ЛАЙКОЎ,**
**дырэктар Мётчанскай сярэдняй школы Барысаўскага раёна**

АДРАЗУ ж папярэджваю: я — не філолаг, не літаратар, я — просты інжынер, шараговы чытач. Таму мо і правоў не надта маю разважаць на ніжэйкранутую тэму. Але ж і маўчаць нясцерпна. Нясцерпна якраз таму, што чытач, што маю права беларусам звацца. Надта ўжо часта ў паўсядзённым жыцці, а цяперашнім часам і спрэс, сустракаюцца факты знявагі, абразлівых адносін да маёй роднай мовы.

Даруйце, пачну здалёк... У тым, цяпер далёкім, ружова-блакітным юнацтве аднойчы на танцах пагляд мой затрымаўся на даволі прывабнай сяляначцы. Пазнаёміліся. Дамовіліся аб сустрэчы. На першае спатканне яна прыйшла з... падручнікам беларускай літаратуры. Сакрэт таго дзівацтва раскрыўся крыху

# Мне даспадобы беларускія шпакі!

пазней. Справа ў тым, што мая новая знаёмая не так даўно вярнулася з бацькамі на радзіму, дакладней, на Брэстчыну з Казахстана, дзе тыя доўгі час былі ў заробках. Аднойчы выпадкова пачула па мясцовым радыё маё выступленне і менавіта на беларускай мове (была такая неасцярожнасць у маім жыцці). Запомніўшы прозвішча (відаць, лёс) і палічыўшы мяне зацятым беларусамоўцам, яна й вырашыла ўзяць на спатканне што-небудзь беларускае — зрабіць чалавеку прыемнае. Вядома ж, у той вечар шмат гаварылі аб далёкай цаліне, якая была ў цяжкія пасляваенныя гады для многіх палешукоў адзіным шанцам выжыць. Менавіта ў той вечар з вялікім болем у сэрцы даведаўся, што шмат няпрычасцей для дзяцей нашых землякоў у тым далёкім краі дастаўляла мова. Размаўлялі ў школах перасяленцы, вядома, па-руску. І дастаткова было выпадкова вымавіць што-небудзь па-беларуску (я не сумняваюся, што й па-ўкраінску гэтаксама), як клас выбухаў рогатам. Ну, а далей справа ясная (дзеці!) — пачыналіся абразы, мянушкі. І сціскаліся ў крыўдзе і разгубленасці трапяткія дзіцячыя сардэчкі. "Часцей іншых, — амаль са слязьмі на вачах успамінала мая сяляначка, — вырываліся асабіста ў мяне словы "шпакі" і "запалкі". Дасюль не ведаю чаму, але менавіта "шпакі" выклікалі ў аднакласнікаў істэрычны рогат".

Да гэтага спаткання я неяк і не задумваўся аб перавагах ці хібах адной мовы перад другой. Цвёрда лічыў, што гэта прывілея спецыялістаў. А для нас, смяротных, мова ды й мова. Агульнавядома, што мова, асабліва заходніх палешукоў, наогул своеасаблівая. У ёй і беларускіх, і польскіх, і асабліва ўкраінскіх слоў хапае. А ёсць і такія, што іх паходжанне наогул цяжка вызначыць без спецыяльнай падрыхтоўкі. Мой дзед па маці, напрыклад, ужываў слова "кумір" у значэнні "каўнер". У Антопалі, адкуль я родам, і вакол ніхто не карыстаецца словам "гарбата", хоць доўгі час і былі пад Польшчай. Усё роўна — чай. Ні "грязными", ні "брудными" нашы рукі ніколі не былі, толькі — маратымі. Толькі валошкі збіралі мы ў жыце, а не васількі. Мо й памыляюся, але, здаецца, ні разу не сустрэў ні ў Быкава, ні ў Шамякіна, ні ў маладзейшых пісьменнікаў слова "ласіцы". Азначае гэтае прыгожае, на мой пагляд, казачна-загадкавае слова маляўнічыя ледзяныя роспісы на аконным шкле... Карацей, карысталіся і карыстаемся сваёй мовай, балазе, на месцах не надта замінаюць. Але ж каб з іншай калі кпілі — зберажы Гасподзь! Хіба што ў сяброўскіх жартах. А тут...

І так, скажу я вам, шкада мне стала на спатканні тую небарачку-беларусачку, якая, дарэчы, у атэстаце сталасці супраць роднай мовы і літаратуры мела тлустыя прочыркі, а разам і мову нашу гаротную, што ўпершыню міжволі пачалося ў душы размяжоўванне на рускае і беларускае, асабліва што тычылася мовы. Шчыра, бы дзіця радаваўся, калі знаходзіў пры тым занятку хоць крышачку чаго-небудзь пераважнага для свайго, беларускага. А знаходак такога кшталту хапала, асабліва калі добра парупіцца. Безумоўна, не менш іх сустракалася і ў адваротным напрамку.

Дык вось, аб знаходках. Ну, хіба ж я адкрыю што новае, калі скажу, што ў рускай мове нашаму прыгожаму, цёпламу слову "вырай" наогул няма аднаслоўнай замены. Гэтаксама і "знічцы". Дарэчы, па меры самаадукацыі я пераканаўся, што беларускія словы, акрамя пявучасці, мяккасці, вельмі дакладныя, трапныя ў сваім сэнсавым прызначэнні. Вярнуся да той жа знічкі. Калі проста — зорка, якая гасне, знікае. Калі ж глыбей капнуць, дык гэта чароўны свет прыгожага падання, якое ўвязвае з'яўленне і затуханне зорак на небе са знаходжаннем на зямлі чалавека. Згодна язычніцкаму паданню, нітку нашага жыцця на зямлі абрывае Яга (усім вядомы казачны персанаж), але ж пад кіраўніцтвам свайго "начальніка", якога завуць Зніч. Вось адсюль і лагічны ланцужок: Зніч-знікаць-знічка.

Зноў жа — "паляванне". У нас, беларусаў, звера здабыць, значыць — упалюваць, здабыць у ад'язным полі. Адсюль і паляванне. Лагічна, зразумела.

Іншым разам тлумачыш гэта прыхільнікам тэзіса аб неперспектыўнасці, беднасці беларускай мовы — не даходзіць, аж злосць бярэ, а часцей — спачуванне.

Неяк давялося папляткарыць з цікавым, дасведчаным чалавекам, які надоечы вярнуўся з паўднёвага курорта. "Сяджу аднойчы ў сталоўцы, — пахваліўся той пры выпадку, — чую недзе паблізу ціхую, амаль шэптам, гутарку на чыстай беларускай мове. З'ява, разумееш, амаль унікальная. Дома, на радзіме не пачуеш. А тут, за блізкім светам... Павярнуўся. Бачам не паверыў: за суседнім столікам гаманілі два нашых вядомейшых пісьменнікі. Не буду называць іх прозвішчы, але падкрэслю: выпадак рэальны — менавіта адасоблена, крадком і менавіта шэптам! Пачутае спярша абурыла. Ніяк не мог уцяміць, у чым справа? Потым успомніліся "шпакі", і ўсё стала на сваё месца.

Блізка ад нас мяжа з братняй Украінай. Зайдзіце ў вагон цягніка, які ідзе з так званага блізкага, а ў нашым выпадку паўднёвага замежжа. Паўсюдна толькі і чутна гучная, раскаціста ўкраінская мова. І каб там нейкія непаразуменні ці, крый Божа, хі-хі! А вось яны ў нас пытаюцца даволі часта, чаму мы не карыстаемся сваёй. І што адказаць? Мы ж у куточку, шэптам. І ўсё ж застаецца шанц вярнуцца назад у свой рэальны, наканаваны нам Богам свет. Я паверыў у гэта, калі паступаў у адну з мінскіх ВНУ (даўнавата тое было, але выпадак актуальны і дагэтуль). Дык вось, конкурс — страшэнны! Тады якраз ваеннаслужачым апошняга года службы дазвалялася паступаць. Калідоры запруджаныя гімнасцёркамі зеляноватага колеру. Па выбранай мною спецыяльнасці набіралі адну групу — трыццаць чалавек. Прэтэндэнтаў — роўна ў адзінаццаць разоў больш! І вось з усіх трохсот трыццаці абітурыентаў ажно сем (!) выказалі жаданне здаваць экзамен па беларускай мове і літаратуры, у тым ліку — і я.

О, трэба было бачыць, як сустрэлі нашу "цудоўную сямёрку" выкладчыкі! Амаль на руках насілі. Дзеля вось аднаго ўжо такога імгнення трэба было нарадзіцца на нашай гаротнай, стагоддзямі падняволенай зямельцы!

Пасля віскулёўскіх падзей, здавалася, усе шлагбаумы былі ўзняты перад нацыянальным адраджэннем. На дзвярах кабінетаў дзяржаўных устаноў з'явіліся шыльдачкі на беларускай мове. Бланкі ўсялякай дакументацыі — таксама. Нават у самым цэнтры Брэста на памяшканні, дзе мыюцца і парацца, закрасавала шыльда, на якой замест "бані" было прыгожа вымалявана "лазня". І ведаеце, нічога не адбылося, ніякай блытаніны, чым, дарэчы, лякаюць людзей сённяшнія гора-патрыёты.

Што да смешнага, дык тое здаралася, як і пры любой кампаніі. Памятаеце, быў загад усе надпісы на ўказальніках гарадоў, цэнтральных вуліц, рэк у месцах перакрыжавання іх з аўтамагістралямі выконваць на дзвюх мовах: беларускай і рускай. Еду аднойчы па шашы Брэст—Мінск і якраз супраць Бярозы чытаю назву ракі па-беларуску: "Ясельда" і тут жа па-руску "Ясельда". Што ж, устаноўка выканана літаральна!

Як бы там ні было, а людзі пакрысе памкнуліся да свайго. І нічога, як адзначаў наш слынны паэт Ніл Гілевіч, што часам не ўсё атрымліваецца дакладна, меней бяды памыліцца ў сваёй мове, чым скажаць чужую. Заходзім неяк з жонкай (так, так, з той самай сяляначкай, памятаеце, якая на чужыне не змагла забыцца на беларускіх шпакоў) на пляцоўку былога стадыёна аднаго будаўнічай ПМК, ушчэнт знішчанага за гады перабудовы. Гледзячы на слупкі, якія засталіся ад разламаных лавак, жонка раптам пытае: "А што тут, перажывацелі сядзелі?" "І сапраўды, — спахапіўся я, — і больш па-беларуску, і значна трапней, чым балельшчыкі. Па-першае. адкуль наогул балельшчык, калі па-нашаму не балець, а хварэць? Па-другое, на стадыёнах мы й сапраўды не хварэем, а перажываем". "Карацей жончына вынаходніцтва мне падалося куды больш наскім, чым тыя слоўцы, якімі карыстаюцца дыктары Дзяржтэлерадыё.

Іду адной з вуліц горада. Насустрач — мужчына з пяці-шасцігадовым сынам. На адным з будынкаў — агромністы рэкламны шчыт, на якім выдзяляюцца тры буйныя літары: ТГЦ. Чую, сын пытае: "Тат, а тат, што азначае ТГЦ?" Баючыся падмачыць бацькоўскі аўтарытэт, мужчына, не задумваючыся, адказвае: "Таргова-гандлёвы цэнтр".

Пытаюся неяк у суседкі: "Гаспадар дома?" "Не, — адказвае, — пайшоў у краму, з мінуткі на хвілінку вернецца".

Так, няхай часам недакладна, парою смешнавата, але ж усё гэта сваё, а таму па-добраму зразумелае. Куды цяжэй, а часам і зусім брыдка назіраць ці слухаць сапраўдныя здзекі над чужым. Не магу мінуць увагаю ў гэтым плане нашага хіт-майстра Сашу Саладуху, які вельмі крыўдзіцца, калі яго завуць спеваком, толькі — "певец" і не інакш. А сам пры выкананні рускай песні дазваляе такое вымаўленне, што жах: "Адзинокий я, адзинокий..." Дарэчы, "цэканне" і "дзэканне" — рэч характэрная для вымаўлення многіх нашых так званых рускамоўцаў... Да месца тут прыгадаць павучальны прыклад вядомага расейскага тэлевядучага праграмы "Угадай мелодию" Пельша, карані якога, як вядома, прыбалтыйскія. Перш чым загаварыць перад тэлекамерамі па-руску, ён доўгі час вучыўся ў спецыялістаў-рэпетытараў. Кажуць, што было іх ажно... восем! Вось гэта — сур'ёзна!..

Эх, долюшка гаротная. Мінуў час. Узаконілі двухмоўе. Калі той-сёй з прыхільнікаў таго самага двухмоўя не надта ўяўляе, што гэта такое ў руках невука, калі ласка, да нас у Брэст. Пакажу на практыцы.

Памятаеце згаданы мною раней будынак-лазню? Дык вось надпіс на шыльдзе застаўся той жа, балазе, у слове тым не аказалася спецыфічных беларускіх літар. Але ж па законах двухмоўя, мусіць (а ад чаго ж яшчэ такое магчыма?), "лазня" з назоўніка агульнага ператварылася ў назоўнік уласны. На першы погляд — нічога дзіўнага. Называюць жа карову Зоркай і сучку — Шчэпкай. Дык вось скарова Зорка — лагічна, а вось лазня пад назвай "Лазня"... Але ва ўсіх рускамоўных прэйскурантах так і пазначана: баня "Лазня".Яскравы вынік нашых дасягненняў у галіне інтэграцыі наогул і двухмоўя ў прыватнасці...

У брэсцкіх парках шмат расце рэдкіх для нашай мясцовасці дрэў. Мясцовыя ўлады парупіліся забяспечыць чужаземныя расліны тлумачальнымі таблічкамі, што само па сабе пахвальна. Але ж зноў-такі падвяло тое двухмоўе, не інакш. Нарагочашся, чытаючы надпісы на тых таблічках. Чысцейшай вады — па-двухмоўнаму! "Высоко дерево, светолюбиво, не морозостойкое. Декоративно шишками с выступающими шишками..."

Сорамна гэта і крыўдна таму, што добра ведаю: ёсць нямала вакол пісьменных людзей, сапраўдных патрыётаў. А з-за нейкай жменькі выпадкова даравшыхся да ўлады бязродных чыноўнікаў даводзіцца чырванець нават перад уласнымі дзецьмі. А хто ж як не мы прывялі іх на гэты страшэнны, аморфны прыпынак? Дык мала таго, што ў тупік завялі. Не можам нават уласных дзетак зберагчы ад той паўсядзённай, бруднай і нахабнай хлусні, згодна якой, мы, беларусы, наогул — ніштo. Даруй мне, Божа, калі што не так зразумеў.

**Уладзімір ХРЫСЦЮК**

*Брэст*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

## “Квадратура круга”

**Новая кніга лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Васіля Макарэвіча “Квадратура круга”, выпушчаная выдавецтвам “Мастацкая літаратура”, прасякнута заклапочаным роздумам аўтара аб лёсе роднай Беларусі. Канечне, аб гэтым ён не заўсёды гаворыць прама, але матывы любасці да Бацькаўшчыны напаўняюць многія творы. Нават тыя, у якіх паэт звяртаецца да падзей мінулага, выкрываючы таталітарную сістэму, гаворачы пра зло, якое яна несла людзям. У такім разе голас В. Макарэвіча гучыць гнеўна, публіцыстычны пафас выходзіць на першы план. Ды інакш і нельга, калі размова тычыцца лёсавызначальных момантаў. А свайго роду эпіграфам да кнігі ўспрымаецца верш “Запаветнае”, што папярэднічае асноўнаму зместу зборніка, а гэта раздзелы “І абхадзіўшы далечы вякоў...” “Штрыхі да партрэта”, “Дзяцел у грудзях”. Запаветнае ж для В. Макарэвіча — дайсці да Беларусі. Дайсці праз яшчэ большую лучнасць і паяднанасць з роднымі мясцінамі — з тымі, што памятныя і жывуць у сэрцы з маленства. Паэт прызнаецца: “І хочацца пагладзіць у цішы // Кару бярозкі, нават сухадрэвіны”. Гэта — не сентыментальнасць, а душэўная патрэба, якая мацнее з гадамі, калі чалавек разумее, што нявечны ён на зямлі.**

**З гадамі адбываецца і пераацэнка многіх маральных каштоўнасцяў, асабліва пасля таго, як у грамадстве адбыліся вялікія зрухі, людзям адкрылася сапраўдная праўда на многае, што адбывалася раней. Але якія б змены не адбываліся, у адным нельга сумнявацца: лёс Беларусі найперш залежыць ад саміх беларусаў. Можна спадзявацца на розных дабрадзеяў, але шукаць шлях да святла, да будучыні ўсё ж трэба самім: “Спадзяёмся мы на дзядзьку Сэма, // Выручаюць Мар’я ды Іван”. Цудоўным атрымаўся ў В. Макарэвіча верш “Мой Парыж”, галоўны матыў якога той жа — замілаванне Беларуссю. Але гэтым разам любоў да яе праяўляецца і выяўляецца ў надзіва прачулых радках пра найпрыгажэйшы куточак Мінска:**

*Я за цябе*
*Гатоў пайсці на крыж,*
*Не тое, што каб вымыць ці падмесці.*
*Ты мой маленькі, мой святы Парыж —*
*Траецкае, бы астравок, прадмесце.*

**Малюнак атрымліваецца ўражлівы, хоць аўтар і не шукае нейкіх, здавалася б, нечаканых слоў. Ды яны і непатрэбны, калі ўсё прамаўляецца самой душой, улюбёнай у гэтае хараство, якое захавалася праз стагоддзі: “Хоць караваны // Праплылі вякоў, // Даверлівым ты засталося дзіцем. // Ці мала тут завулкаў і куткоў, // Дзе можна, як у замку, заблудзіцца. // Нібыта чорт // З-пад шэрага карча, // Хмель вызірне на свет // З-за круглай стойкі. // Ад тлуму аж гайдаецца карчма, // І пасмы дыму скручаны // Ў тры столкі”. Хочацца часцей наведвацца сюды, дзе “нібы са студні, выплываюць дні // Ды і багацце даўняга былога”. І нельга прамінуць гэты куток: “І кожны раз, // Калі я тут іду. // Вярнуўшыся з Ружанаў ці Пружанаў, // Здаецца, весялосць з сабой вяду // Прадмесцем, як сапраўдны гараджанін”.**

**Па-свойму асэнсоўвае В. Макарэвіч і падзеі даўнія. Прынамсі, гэта назіраецца ў вершы “Перамога пад Оршай”, калі паэт звяртаецца да Аршанскай бітвы:**

*Напэўна,*
*Наглыталіся мы смогу.*
*Ну хто і дзе зрачыся гэтак мог*
*Хаця б малой-маленькай перамогі,*
*Як мы — сваіх вялікіх перамог.*
*У сённяшнім*
*Бяспамяцтве і гуле*
*Ці можна бэсціць даўнія часы?*
*Хіба пад Оршай мы калісь не гнулі*
*Кальчугі на грудзях*
*Былой Русі!*

**У вершы гучыць адказ і непрымальнікам Аршанскай перамогі, якія бачаць у гэтай падзеі ледзь не тое, што можа пасварыць два братнія народы:**

*А я наліў бы*
*Ратнікам па гарцу*
*Той горкай, што чысцей і ад расы.*
*Не Русь мы білі,*
*Білі мы паганцаў,*
*Якіх ставала ў нас і на Русі.*

**Закранаецца ў кнізе і афганская тэма, гаворыцца пра страшныя наступствы Чарнобыля. Тым самым жыццё ў новай кнізе В. Макарэвіча паўстае ва ўсёй яго шматграннасці і складанасці.**

**Міхась ГЕНЬКА**

***Гэтая сустрэча мусіла адбыцца, прынамсі, з дзвюх прычын. Па-першае, яе ўдзельнікі, Навум Гальпяровіч і Міхась Тычына – з аднаго боку, і Ганна Кісліцына і Андрэй Хадановіч – з іншага, належаць да розных літаратурных пакаленняў, так што гутарку можна смела назваць дыялогам паміж «аксакаламі» і «маладымі». Па-другое, у сённяшняй размове бяруць удзел два паэты і два літаратурныя крытыкі, што і забяспечыла дыскусіі неабходны элемент інтэрдысцыплінарнасці. Што аб’ядноўвае суразмоўнікаў, дык гэта неабыякавасць да беларускай літаратуры ў яе цяперашнім стане, а таксама да таго, якое месца ў ёй займае літаратурная творчасць моладзі.***

# Ці варта адбіваць насы ў статуй?

### ПРА ЛІТАРАТУРНЫЯ ТРАДЫЦЫІ І МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

*Г.КІСЛІЦЫНА.* З цікавасцю праглядзела спіс удзельнікаў семінара маладых літаратараў... Збольшага, гэта аўтары аднаго-двух вершаў, у найлепшым выпадку — адной добрай падборкі. І гэта лёгка вытлумачыць, бо семінар стаў праводзіцца штогод і збірае па пяцьдзесят-семдзесят чалавек. Мне здаецца, гэта падазроныя лічбы. Ці ж можа набрацца ў нашай краіне сто пяцьдзесят маладых талентаў адразу? Атрымалася, як у Юза Аляшкоўскага: мы папярод планеты ўсёй па колькасці паэтаў...

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Да гэтага не было семінара сем ці восем гадоў! Два гады таму Саюз пісьменнікаў знайшоў сродкі, каб правесці чатырохдзённы семінар у Іслачы, год таму — грошай хапіла на два такіх дні, сёлета семінар праходзіў толькі адзін дзень у будынку Дома літаратара. Але ж для многіх — гэта вялікі старт. Да мяне падыходзілі семінарысты і гаварылі, якое гэта шчасце, што быў хоць гэты адзін дзень. У маладосці вельмі важна быць пачутым, заўважаным... Колькі людзей збіраць, колькі дзён праводзіць — гэта спрэчныя пытанні. Але калі ёсць вакол чаго спрачацца — значыць нешта адбываецца.

Бяда нашага моманту ў тым, што змагароў многа, а сейбітаў мала. Чорнае сейбіцтва абсалютна непапулярнае і не заўважнае. Лягчэй выдаць кнігу, прачытаць лекцыю, даць інтэрв’ю, завесці вучня, чым займацца працай з маладымі. Мяне ўвогуле дзівіць, што яны, маладыя, нягледзячы на ўсе акалічнасці, ідуць у літаратуру, хаця прэстыж прафесіі відавочна падае.

*М.ТЫЧЫНА.* Ёсць сфера духу, якая заўсёды патрабуе выяўлення... Я ўпэўнены, што багата таленавітых юнакоў усё яшчэ застаецца незаўважанымі. Часта бывае так — усплыве недзе імя і знікае. Вось быў рэспубліканскі конкурс літаратурных твораў. У ім браў удзел Усяслаў Рэут, семнаццацігадовы юнак з Салігорска, які напісаў раман пра вяліжскае паўстанне. Я нават патэлефанаваў яму, каб пераканацца, што такі малады чалавек напраўду існуе — настолькі сталае пяро ў яго... А пасля знік некуды. Такіх, як ён, самасеек, трэба трымаць пад увагай.

Мне здаецца, што ёсць карысць, калі чалавек хоць бы і адзін раз спакусіўся на літаратуру. З яго нешта атрымаецца... За апошнія гады я выпісаў для сябе недзе каля сарака імёнаў — большасць з іх не сталі паэтамі. Але сталі журналістамі, выдаўцамі, гісторыкамі. У іх філалагічная закваска засталася, яны працуюць на культуру. Тут карысць пабочная, якая выявіцца не адразу. Яны ствараюць атмасферу, а без атмасферы літаратура немагчымая. Многія на правінцыі закісаюць, співаюцца, зніжаюць мастацкі ўзровень. Бо няма творчага асяродка.

*Г.КІСЛІЦЫНА.* Кантакты, творчыя сустрэчы — гэта добра. Аднак у гісторыі застаецца напісанае. Мне здаецца, што большую карысць літаратуры прынеслі б не стасункі васьмідзесяці юнакоў, а няхай бы хоць і адна, але выдадзеная кніга. Гэта лепшы паказчык працы з маладымі. Тым больш, што, як паказвае практыка, густы кіраўніка і ўдзельніка семінара сыходзяцца не часта.

*М.ТЫЧЫНА.* Сапраўды, адбор настаўнікаў і вучняў мусіць быць натуральным. Усякае аб’яднанне мае карысць адно тады, калі лучацца птушкі адной вышыні палёту. А семінары Саюза пісьменнікаў трошкі нагадваюць калгас. Там ёсць і дарослыя, і зусім дзеці, якія са страхам на ўсё глядзяць. Націск павінен быць на індывідуальную схільнасць, на асабовы выбар.

*А.ХАДАНОВІЧ.* Мы ставім сабе пытанні: два дні — мала ці многа? Восемдзесят удзельнікаў семінара — мала ці многа? Мне здаецца, што да гэтага наогул не трэба падыходзіць з колькаснымі паказчыкамі. Тэма калгаса тут прагучала дарэчна, але сфармулюем праблему інакш: што рабіць з тымі адзінкамі, якія ўсё-ткі былі выяўленыя? На Украіне, да прыкладу, калі праводзіцца такі ці падобны семінар, заканамерна паўстае пытанне не толькі ў плане кантактаў, стасункаў, але найперш у плане выніку. Калі ёсць конкурс, дык натуральным лічыцца выдаць пэўную колькасць кніг. А ў нас пераможцы, у найлепшым выпадку, атрымліваюць некалькі мінімальных заробкаў праз бухгалтэрыю Дома прэсы.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* На семінары да маладых заўсёды прыходзяць выдаўцы. Але рэальнасць такая, што СП не мае правамоцтваў, каб уплываць на тое, што выдаецца. Нам яшчэ пашчасціла, што літаральна да семінара выйшла “Анталогія маладога верша”, складзеная А.Масарэнкам і выдадзеная “Ураджаем” з іх уласнай ініцыятывы. У зборніку задзейнічана максімальная колькасць імёнаў.

*А.ХАДАНОВІЧ.* Таксама не магу не сказаць «пра пазітывы». Сёлета «Беларускі Зялены Крыж» пры падтрымцы Міністэрства адукацыі ладзіў конкурс «Дзень Зямлі» для школьнікаў. Была там і літаратурная намінацыя. У выніку, найлепшыя вершы і эсэ былі надрукаваныя ў “Першацвеце” ды іншых перыядычных выданнях. Маладыя літаратары атрымалі шанс быць пачутымі. Аднак, здаецца мне, існуе праблема таго, што пісьменнікі цяпер адзін аднаго не чытаюць.

Складаецца ўражанне, што адзінага беларускага чытача ў нас наогул няма. З аднаго боку, не сто працэнтаў насельнікаў нашай рэспублікі чытае па-беларуску. З другога, можна з пэўнасцю сказаць, што вялікая колькасць чытачоў “Нашай Нівы” альбо “Архэ-Скарыны” не будзе чытаць “Маладосці” альбо “Полымя”. І наадварот. Апрача таго, востра стаіць праблема тыражу. Некалькі нумароў “Крыніцы” выходзілі накладам 667 асобнікаў — маўляў, ані кроку назад. “Калоссе” друкуецца накладам 299 асобнікаў. Часопіс “Правінцыя” ўвогуле пакуль мала хто бачыў. І гэта пры тым, што ёсць попыт.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Безумоўна, трэба, каб усё было: і “Нігіль”, і “Полымя”, і добрыя наклады. Тады будуць і колы прыхільнікаў. Аднак, можа, варта падтрымаць сёння той самы “ЛіМ”, у якім хочуць друкавацца ўсе, незалежна ад поглядаў.

*М.ТЫЧЫНА.* Ідэі распаўсюджваюцца не такім простым спосабам, як тыражаванне. Многае залежыць ад таго, ці вартыя яны ўвагі. Ноў-хаў авалодваюць розумам спачатку невялікай групы людзей, пасля шырэй, шырэй. А пасля гавораць — дык гэта ж вядома! Сапраўдная літаратура не можа быць усенароднай, масавай. Шлях да чытача можа быць звілістым.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Бяда ў тым, што цяжка знайсці той крытэрый, каб быць упэўненым, што выдаецца напраўду добрая, вартая ўвагі кніга. Ёсць жа “Бібліятэка часопіса “Маладосць”, яшчэ нешта. Але і там вялікіх адкрыццяў няма. Няма і тых крытыкаў, якія б сказалі, хто з маладых чаго варты. Новыя імёны застаюцца незаўважанымі — няма ні дакораў, ні пахвальбы.

*А.ХАДАНОВІЧ.* Да таго ж, вельмі рэдка бывае, калі сталы літаратар, пісьменнік ці крытык пяцідзесяці-шасцідзесяці гадоў, звяртае ўвагу на літаратурныя спробы маладых. Найчасцей крытыкі і аўтары ў сваіх густах і прыхільнасцях не выходзяць за межы свайго пакалення.

*Г.КІСЛІЦЫНА.* Можна лаяць крытыкаў — не заўважаюць, не пішуць. Аднак на сённяшні момант у нас ёсць толькі адзін крытычны часопіс — “Архэ-Скарына”, які існуе, дарэчы, без дзяржаўных датацый. Калі я чарговы раз чытаю пра тое, што ў нас крытыка знікае як жанр, заўсёды думаю, чаму яна яшчэ жывая — пры такіх мізэрных ганарарах. Крытыкам пара пісаць артыкулы ў вершах — чамусьці лічыцца, што рыфмаванне вымагае большых разумовых высілкаў, чым аналіз чужой творчасці. Аднак калі паэт можа быць самавукам, дык быць крытыкам без адукацыі немагчыма. Зноў жа, крытык не можа, як паэт, сказаць, калі нешта не атрымалася: “А гэта творчы эксперымент!” Між тым, патрэбен не толькі прафесіяналізм, але і натхненне.

Шкада будзе, калі мае маладыя калегі, безумоўна, таленавітыя людзі, кінуць пісаць, “абламаныя” першымі ганарарамі.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Аднак і на Захадзе мала хто жыве з літаратуры... Ёсць гранты, ёсць фонды, якія падтрымліваюць некамерцыйныя праекты. У нас жа іншая сітуацыя. Мы не можам чакаць матэрыяльнага дабрабыту ад літаратуры. Мы знаходзімся на ўзроўні асветніцтва і ад нас патрабуецца ахвярнасць. Я не кажу, што гэта добра. Аднак трэба прызнаць, што мы апынуліся ў віртуальнай сітуацыі...

*М.ТЫЧЫНА.* ...дзе і рынак, і дзяржава. Заўважу, Нобелеўскі лаўрэат І.Бродскі зарабляў на хлеб тым, што чытаў лекцыі. Трэба і нам улічваць агульную сітуацыю ў свеце.

*А.ХАДАНОВІЧ.* Сітуацыя ў нас напраўду унікальная. Але не магу сказаць, што гэта адназначна дрэнна для літаратуры. З аднаго боку, яна перастала быць сродкам здабывання грошай, кватэр, «цёпленькіх месцейкаў» — і з’явілася надзея, што ў літаратуры застануцца адно тыя, каму патрэбна яна сама, а не даброты, якія яна раней абяцала. З іншага боку, той факт, што Беларусь — несвабодная краіна, а беларушчына — сродак самазахавання нацыі, па-ранейшаму робіць літаратуру больш чым літаратураю, паэзію — больш чым паэзіяй. Таму, колькі б асобных графаманаў у кніжным і часопісным выглядзе ні кампраметавалі беларускае пісьменства, статус літаратуры і самога літаратара застаецца ў нас досыць высокім. Так, нядаўна на паэтычным фестывалі адзін расійскі паэт запытаўся ў мяне: “А чым вы займаецеся?” “Пішу”. “Не, а займаецеся чым?” Для іх пісьменства — гэта не занятак. І гаворка тут не пра грошы. У нас яшчэ спрацоўвае такі чыннік, як адказнасць за прамоўленае, тады як для іх пісаць — гэта ў найлепшым выпадку цікавы эстэтычны эксперымент. Таму і літаратура там запатрабаваная меней, тады як у нас амаль кожны носьбіт беларускай мовы ёсць патэнцыйны спажывец літаратуры.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Я таксама веру ў аптымістычны лёс літаратурнай Беларусі. Пісьменства ў нас — гэта служэнне, служэнне ідэі, ідэалу... Гэта ўзвышае. Мы слаўныя не ультрафармальнымі пошукамі, хоць я заўсёды буду іх падтрымліваць, а духоўным пачаткам, які пазначыў усю славянскую літаратуру.

*А.ХАДАНОВІЧ.* Не славянскую, бо шмат хто сёння бессаромна спекулюе на паняцці “славянскі” (чытай — “усходнеславянскі”). Я хутчэй казаў бы пра пэўныя каштоўнасці, якія — вельмі ўмоўна — можна акрэсліць як цэнтральна-еўрапейскія. Мы жывём — і дзякаваць Богу! — пэўнымі стэрэатыпамі. У Польшчы альбо на Украіне па-ранейшаму вераць у тое, што, апрача матэрыяльных выгод, існуюць яшчэ духоўныя, а лепш сказаць — інтэлектуальныя запатрабаванні. Шчыра разумею польскіх калег, якія ганарацца тым, што кожны год на іх мову перакладаецца безліч замежнай літаратуры — і высокай таксама.

Але як жа мала мы ведаем адзін аднаго! Так, у львоўскай газеце, апавядаючы пра вечарыну беларускай паэзіі, маім прозвішчам падпісалі вершы У.Арлова і вельмі здзіўляліся пратэстам, маўляў, якая розніца? Нават у суседняй Украіне пра нас амаль нічога не ведаюць, што ж казаць пра Еўропу. А адбываецца гэта яшчэ і таму, што тыя, хто выязджае сёння за мяжу, найчасцей прэзентуюць адно творчы асяродак, блізкі сваім інтарэсам.

*М.ТЫЧЫНА.* Гэта паказчык агульнага ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Саюз у дадзенай сітуацыі бяссільны. Дзіўлюся, як часта нашыя пісьменнікі, апынаючыся за мяжою, быццам забываюць пра літаратуру, прадстаўнікамі якой з’яўляюцца. Асноўны прынцып: “Акрамя мяне — нікога”. Аднак жа зразумела, што і яго ўласная вартасць залежыць ад моцы літаратуры той краіны, якую ён прадстаўляе. Гэта праблема і “аксакалаў”, і маладых, якія лічаць: “Літаратура пачынаецца з мяне”.

*М.ТЫЧЫНА.* Урэшце, гэта эканамічна выгадна — прапагандаваць нацыянальную літаратуру.

*Г.КІСЛІЦЫНА.* Мне здаецца, што праблемы з узаемапаразуменнем звязаныя не толькі з недастатковай рэкламай ці прапагандай, але і з тым, што за той параўнальна невялікі ў гістарычным маштабе адрэзак часу, які наша рэспубліка пражыла ў адноснай самастойнасці, літаратуры краін-суседак значна змяніліся. Да прыкладу, маладыя латышы былі вельмі здзіўленыя папулярнасці такога жанру, як перфоманс. У іх мода на перфомансы сышла ўжо пару год таму... Вядомы расійскі канцэптуаліст Д. Прыгаў, які нядаўна прыязджаў у Мінск, слухаючы “справаздачы” нашых маладых літаратараў аб праведзеных імі акцыях, са шкадаваннем спытаў: “А ці ёсць сярод вас тыя, хто займаецца толькі паэзіяй?” І дадаў: “Як бы гэта было добра!” Мне здаецца, ёсць пэўная небяспека ў тым, што нашы літаратары вяртаюцца да сінтэтычных відаў мастацтва.

*Н.ГАЛЬПЯРОВІЧ.* Раздзьмуванне прэсай актуальнасці перфомансу трошкі “змывае” агульную карцінку. Аднак усе ведаюць сапраўдную вартасць гэтых з’яў.

*А.ХАДАНОВІЧ.* Усё залежыць ад творчай асобы. Ёсць таленты, якія могуць дазволіць сабе «сінтэтычныя віды мастацтва». Так, Л.Вольскі займаецца адразу некалькімі рок-гуртамі з рознай эстэтыкай і піша ндрэнныя

ПРОЗА

Васіль ЗУЁНАК

# ЭЦЮДЫ



## А-ва-ва!..

Па вузенькай сцяжынцы, парослай траўкай-мураўкай з лапікамі дзяцеліны, маладзенькая мама — самой не больш васемнаццаці — вядзе хлапчука гадоў гэтак каля аднаго з хвосцікам. Хвосцік той якраз і дае сынку права зыбацца на непаслухмяных ножках, улукаткі прасоўвацца то наперад, то назад і выказваць сваё захапленне гэтым пераадоленнем прасторы словамі, сэнс якіх можна перадаць прыкладна так: "А-ва-ва!.."

Тым часам з-за плота, аблажанага крапівой і розным іншым чартапалохам, высоўваецца галава з добрай усмешкай сівога дзядка і пахвалой: "От жа малайчына! Так спраўна ідзе!" На што хлапчук, не то дзякуючы, не то запэўніваючы, што гэта для яго самыя што ні ёсць дробязі, яшчэ гучней прамаўляе: "А-ва-ва!.."

Тут насустрач падсунуўся і я, падняў угору руку, трошкі збочыў са сцежкі і прывітаў: "А-ва-ва!.."

Што тут было, што пачалося! Зразумеў мяне малы — і "А-ва-ва" загучала на ўсе лады і адценні.

"А-ва-ва!" — іду, ступаю па зямлі.

"А-ва-ва!" — гляджу ў неба, дзе лёгкай хмаркай віражуюць ластаўкі: збіраюцца ў вырай.

"А-ва-ва..." — нічога пра гэта не знае малы, не здагадваецца, што наступае восень... Ды і што яму да восені, калі ў яго наперадзе столькі вёсен і летаў. Ён проста радуецца — і ідзе.

А-ва-ва!..

## "Живе..."

Ля чыгуначнага прыпынку "Зялёнае" на шапіку, які даўно не гандлюе, на ўсіх чатырох сценах — з якога боку ні зайдзі — прачытаеш выведзены крэйдай покліч "Жыве Беларусь!"

Не гандлюе — але працуе закінуты шапік!..

Тут жа, метраў праз пяцьдзесят, на плоце са старых дошак, праўда, нанава адгабляваных, накрэслена тое ж самае, але не зусім пісьменна: "Живе Беларусь!" Хтосьці, больш "адукаваны па-беларуску", памылку выправіў: закрэсліўшы "и", алоўкам сцвердзіў поверх — "ы". Значыць, — Беларусь не толькі ЖИВЕ, але і ЖЫВЕ!..

## Першаснасць

Прыгадваю іншы раз свой даўні верш "Наша праўда" — і тут жа падмывае выправіць эпіграф да яго. Не — не сам эпіграф — там усё правільна і дакладна: "Я верую, и мне не так больно...", а рэмарку: хто іх вымавіў, гэтыя словы. Права першаснасці належыць Ніне Зарэчнай з чэхаўскай "Чайкі". Але ёсць іншае права — права гэтага верша: ён успыхнуў, пачаткі яго — ад Лікі, гераіні кінафільма па чэхаўскіх матывах "Сюжет для небольшого рассказа" (зноў жа — "Чайка"! Словы — адтуль...)

І што пераважыць? — ці, скажам, што пераважвае: першаснасць фактычная альбо эмацыянальная, канкрэтна суаднесеная з канкрэтнай сітуацыяй, момантам сардэчнага імпульса, штуршка нараджэння эннага сусвету?..

Так і застаецца перад вершам — па думцы, здавалася б, не надта, не палабавому, сугучным эпіграфу, але па настроі — эмацыянальна-крэўным яму — так і застаецца пазначэнне: "Чэхаўская Ліка..." — ёю апраўдана з'яўленне верша...

## Асацыяцыі

Па радыё гучала песня ў выкананні групы "Квартал". Аўтар слоў — Павел Грушко, вядомы як перакладчык паэзіі з рускай мовы на іспанскую і з іспанскай на рускую. А вось яго ўласны паэтычны лёс (піша ён і па-руску, і па-іспанску) не ўсыпаны ружамі. Дастаткова сказаць, што адно толькі выдавецтва "Советский писатель" у свой час каля дзесятка разоў вяртала Паўлу Грушко паэтычны рукапіс...

Нарэшце, кніга паэта набыла рэальныя рысы выдання. Гэта сталася напрыканцы стагоддзя. А выдавецкая памета з датаю выхаду перасягала яго мяжу. І тут аўтар рашуча запратэставаў: кніга створана ў дваццатым стагоддзі, і толькі так, а не інакш павінны сказаць аб ёй выхадныя звесткі...

Гэтая інфармацыя — разам з песняю — перадавалася рускай рэдакцыяй радыё "Свабода", а мне прыгадвалася (па асацыяцыі з Паўлам Грушко) іншае імя — Карласа Шэрмана і мае сяброўскія радкі, выклікаmaking  яшчэ адным асацыятыўным мосцікам, як здавалася мне, не толькі гукавым:

***Рыфмую Шэрмана з Машэравым...***
***З якой нагоды цэлы дзень***
***Сугучча да змяркання шэрага***
***За мною ходзіць, нібы цень?..***

***Ах "шэр...", "машэр..." —***
***Не піў кашэрнага,***
***А ўжо шкрабецца рыфма ў сон,***
***Марскою галькай ціха шэргае***
***З душою добрай ва ўнісон...***

А пры чым жа тут Павел Грушко? Дык жа — зноў яна: асацыяцыя.

Карлас Шэрман — перакладчык беларускай паэзіі на іспанскую мову і іспанамоўнай — на беларускую. І вось — знаёмства з яго арыгінальным творам — паэмай "Дождж у Караліштавічах", напісанай па-іспанску і перакладзенай на рускую мову Паўлам Грушко і на беларускую Рыгорам Барадуліным. У аснове твора ўгрунтаваны лёс лірычнага героя, маладога чалавека, які нарадзіўся далёка ад Беларусі, але тут, на гэтай зямлі, жылі яго продкі, і юнак сэрцам сваім, душою імкнецца сюды. Адчуванне роднасці з Беларуссю, а разам з тым усведамленне сваёй еднасці з простым народам Уругвая выводзяць героя паэмы на сцежкі барацьбы за сваю будучыню.

Уяўленнем сваім ён абжывае той край, што малюецца, зноў-такі праз уяўленне — зманліва-палітызаванае, асацыятыўна-адцягненае ад рэальнасці, — уяўленне і такіх людзей, з чыім прозвішчам напрасілася згаданая рыфма...

Лірычныя развагі аб дні сённяшнім мяжуюцца ў творы з успамінамі аб тым далёкім даваенным (другая сусветная) і пасляваенным часе. Такі кампазіцыйны прыём дае аўтару магчымасць ахапіць, засведчыць у мастацкіх малюнках моманты значныя, пераломныя не толькі для яго асабістага лёсу, але і для шляхоў грамадска-гістарычных...

Нарэшце — сустрэча з Беларуссю, пра якую столькі мроілася, столькі было перадумана.

***Дзве злучыць паэмы***
***мост вяртання выплыў,***
***дзве мае радзімы***
***мост яднае сціплы.***

***Дзеці, смела рушце,***
***мост душы трывалы,***
***вас паслаў Сервантэс,***
***пераняў Купала, —***

так, гэта і яны — вершаваныя радкі, дзеці паэта — ступілі пасланцамі Сервантэса на зямлю Купалы.

З мяккім лірычным замілаваннем падаюцца ў творы малюнкі беларускай прыроды, каларыт бытавых рэалій...

Чытачу прапануюцца адразу два пераклады, на дзве мовы, два паэтычныя прачытанні аднаго твора. З цікавасцю сочыш не толькі за падзеямі і калізіямі, што разгортваюцца ў паэме, — тут уключаецца, становіцца яе рэальнасцю яшчэ адна сіла — тэмпераменты, характары двух перакладчыкаў.

Калі ў Паўла Грушко пераклад гучыць больш стрымана, ва ўстаялых формах і канонах, з імкненнем да тэкстуальнай яснасці і дакладнасці, то Рыгорам Барадуліным кіруе (што, безумоўна ж, вынікае з яго паэтычных канцэпцый!) стыхія вобраза, гуку, рытму, — і што, відаць, бліжэй да стыхіі іспанамоўнага арыгінала Карласа Шэрмана.

***Раптам асенні лівень***
***грукнуў сагнутай галінкай***
***у азалелую шыбу***
***стомлена-нецярпліва,***
***як перамоклую глыбу,***
***долу хутчэй звалі́ўшы***
***ношку начы паганскай.***
***Злосны я ўстаў, ды спагадна***
***лес падказаў мне шумам***
***тое, што напішу я, —***

мяккі гукапіс, што пераходзіць у нейкую ўсёпранікаючую, амаль татальную рыфмоўку...

Так ідзе своеасаблівае спаборніцтва, турнір двух майстроў перакладу, у якім, здаецца, няма пераможаных; пераможца ёсць — гэта паэзія...

Тая самая, што і ў песні, дакладней, у вершы Паўла Грушко — на іспанскай мове, і ў ім усяго тры радкі:

Жыццё маё,
Якое развясёлае і сумнае...
Ратуй мяне, Божа...

Проста і здарова!.. А па асацыяцыі нагадваюцца словы яшчэ аднаго выдатнага паэта: "геніяльная прастата..."

## З якой рукі на якую?..

Радкі гэтыя класічна-хрэстаматыйныя — як узор мастацкай дэталі, якою накрэслены душэўны рух, выяўлены настраёвы стан лірычнай гераіні.

Аднак, прыгадваючы:

***...Я на правую руку надела***
***Перчатку с левой руки, —***

не-не, ды і засумняваешся іншы раз: а можа, "на левую руку" "перчатку с правой руки"?..

Сапраўды: мастацкі вынік як бы адзін і той жа. Прамаўляеш і той і гэты варыянт, нібы даводзячы сам сабе, што, магчыма, "сакрэт" тут даволі просты, ці, зрэшты, і сакрэту таго няма: дзейнічае банальная псіха-фізічная звычка звычайнай "праўшы" — пачынаць усё апрананне ці адзяванне — з правай рукі, — і "першую пальчатку" ў стане ўзбуджанасці лёгка пераблытаць...

Ды ўсё ж, ды ўсё ж здагадваешся, не проста так "дакладна"-банальна выдыхнула гэтае двухрадкоўе Ганна Ахматава. Т а к магла сказаць яна і па законах нейкіх таемных, магічных, і ёю тым часам выразна не ўсвядомленых. Нарэшце, і ты сваё чытанне па памяці спыняеш, сцвердзіўшыся на гэтым, ахматаўскім, т а к, а не інакш. Але чаму?..

Думаецца — і гэта найбольш верагодна, — фразу "прадыктавала" Ахматавай гучанне: як бы груваstка, перанасычанае "цяжкімі" перакочваннямі "р", прамаўляецца словазлучэнне (менавіта — "словазлучэнне", інакш у такім выпадку не назавеш): "перчатку с правой руки"... І як маўленне акрыляецца гэтым лёгкім, лятучым "ле...": "перчатку с левой руки!"... Тут і нецярплівы жэст — як бляск ляза, і збылтаная з гневам разгубленасць... Не, куды ні павярні, нізкаму "ра..." тут не пасапернічаць... Дарэчы, не застаўся ў "крыўдзе" і першы радок: яму таксама "выдзелены" гэты крылаты гук: "надела". Як бы для "нейтралізацыі" "р"...

Вось і маем:

***Я на правую руку надела***
***Перчатку с левой руки...***

Хоць — можаце — і наадварот...

Але — нешта згубіце...

## Сцэна ля фантана

Не, гэта была не сустрэча, прызначаная напярэдадні па тэлефоне ці дамоўленая пры ўчарашнім развітанні. Не прадбачылася тут ні вясёлага сяброўскага шчэбету, ні важнай дзелавой размовы ці сур'ёзнай разборкі. Не нагадвала гэтая дзея і славутай "Сцэны ля фантана" з оперы Мусаргскага "Барыс Гадуноў", дзе Самазванец Ілжэдзімітрый клянецца у каханні Марыі Мнішак...

І фантан гэты быў зусім не з такіх, што ўпрыгожваюць прыдворныя паркі царскіх палацаў ці гарадскія плошчы і скверы. Ды і ўзнікнуць яму тут зусім не выпадала, калі пагля дзець на справу сур'ёзна. Вада ўзлятала, успырскваласяўгору зусім без належнай на тое патрэбы і ў зусім непрыдатным месцы. Можна сказаць, выглядала гэта пустым ваdaлействам і марнатраўствам ды яшчэ пэўнай нязручнасцю для людзей, што праходзілі міма.

А было іх тут, тых людзей, не тое што многа, а вельмі многа. Бо дзеялася ўсё на чыгуначнай платформе. А вада фантаніравала і разлівалася лужай вакол абрэзанай трубы, што чамусьці тырчэла тут са сваім, як гэта часцей за ўсё бывае ў такіх, прывакзальных, выпадках, сапсаваным ці наогул збітым і так-сяк прыкручаным драціною кранам...

Словам, кран быў. Але — па ўсім жа відаць — дзіравы і нікому не патрэбны. Нікому з людзей. Бо...

Вось гэтае "бо" якраз і ўгледзела ці пачула плюскатанне і шуснула да вады — спачатку ў выглядзе адной, а потым і другой — наўздагон — галкі.

Дзень быў спякотны, і галкам хацелася піць. То проста і плюхнуліся яны з прывакзальнай будніны ў лужу. Раз-другі ўскінулі ўгору дзюбкі, перакочваючы ў перасмяглых глотках ратоўчыя кроплі вільгаці. А потым і азірацца пачалі. Не таму, што спалохаліся. Прывакзальныя галкі звычныя да натоўпу. Тым больш, што і натоўп сотнямі сваіх ног не надта набліжаўся да галак, стараючыся абмінуць лужу.

Азірацца ж галкі пачалі, зацікавіўшыся: адкуль гэта зверху падае вада. І тая, што была, відаць, больш здагадлівая, тут жа ўспырхнула да крана, уселася побач з фантанчыкам і сунула ў ягоны струмень разяўленую дзюбку.

О, як было гэта заманліва і як прыгожа: лавіць на вышыні мігатлівыя кроплі і ўзносіць раз-пораз — яшчэ вышэй за фантанчык — сваю, як ёй здавалася, дужа зграбную дзюбку. Быццам горн узнімала галка: вось-вось заіграе-затрубіць.

Але ўжо гэтага якраз і не магла сцярпець тая, што засталася ў лужы. Да таго ж пачувалася яна, пэўна, мацнейшаю і разумела, што ця зараз мае перавагу над кемлівасцю. А таму і ўсхапілася яна з лужы, і пайшла ў наступ на "фантаншчыцу".

Спіхнула-такі... І, усеўшыся на абрэзак трубы, тут жа паўтарыла ўсё, што толькі што рабіла адпрэчаная галка. А гонару ж колькі было, а пыхі!.. Ды яшчэ пазіравала зверху — рыхт акторка на сцэне, — здзекліва чэкаць пачала. Быццам пыталася: "Ну, як там, у лужы?.."

А што ў лужы? — кемлівая на тое яна і ёсць кемлівая: раптам разгарнула крылы — і давай плёскацца, купацца, значыць. На тую, верхнюю, нават і вокам не вядзе.

"Ах, дык ты яшчэ і гэтак?!" — і пакольк і нападаць з вышыні куды лягчэй, то і спікіравала зайздросніца ў лужу і чубіць ухапілася купальшчыцу. Паляцелі — і пыркі, і пер'е...

І толькі задумлівы грак пазіраў з таполі на галчыную мітрэнгу і дзівуецца не мог: дзеля чаго ўся гэтая валтузня?..

Ну, сапраўды: навошта бойка, навошта вайна?..

Каб вады больш ухапіць? Дык яе ў лужы — як у моры, калі па-галчынаму мераць...

З-за гонару: вышэй сесці, вышэй дзюбу ўзнімаць з вільготнаю кропляй? Альбо вада там, уверсе, смачнейшая? Дык жа з аднае трубы ліецца...

Ці ў імя прыгажосці, дзеля "эстэтыкі піцця" калатнеча ўзгарэлася? То ўжо гэта — ні ў якую дзюбку, па-птушынаму кажучы, не лезе: прыгажосць — і вайна...

Разбярыся тут з гэтымі галкамі...

## Мурашыны шлях

Прайшоў бы і я міма гэтага мурашніка: ці мала іх — маленькіх, з купіну, і вялізных, з добрую капу, а то і стажок, сена — мітуслівa і мякка пухірышча ў лесе. Ля кожнага не будзеш спыняцца... І дзеля чаго? Бегаюць сабе мурашкі, снуюць туды-сюды, — ну і хай сабе. Клопат, значыць, нейкі маюць...

А да гэтага мурашніка я мусіў вярнуцца. Не адразу, а крокаў праз дваццаць, калі выразна, і неяк аж не верачы, пачаў заўважаць — праз мох, праз траву коціцца па зямлі мурашыны ручаёк. Адкуль? — здагадацца няцяжка. Ды і не пашкадаваў я тыя дваццаць крокаў, каб упэўніцца канчаткова: зноў падышоў да мурашніка. Так і ёсць: з яго, як з пагорка, скочваюцца гэтыя чорна-рыжыя крапелькі, зліваюцца ў роўненькі жывы струмок, набіраючы разгон. А вось куды? — гэта ўжо загадка. Прынамсі, для мяне. Самі мурашкі, пэўна ж, ведаюць. Інакш не спяшаліся б гэтак...

Пайшоў і я ў той бок. Заадно і крокі лічыць пачаў. Іду сабе, не спяшаюся. Бо мне што: ступлю раз — і адразу тысячу мурашак, не меней, абганяю. А яны ўсё бягуць, бягуць... Паступова я нават і сцежку, вытаптаную імі, быццам

(Заканчэнне на стар. 15)



прадстаўляў таварыства людзей з абмежаванымі магчымасцямі зроку. Якім нечакана дасціпным падалося выступленне гэтых музыкаў, калі яны вынеслі на сцэну вялізны гармонік і сыгралі на ім адначасова ўтраіх! Якую вытанчаную праграму са старажытнай беларускай музыкі прэзентавалі ў пастаўскім касцёле "Ігуменскія крыніцы". А якія вясёлыя былі прыпевачнікі!..

Аматарства — з'ява, якую нельга апісаць. Каб яе спасцігнуць і захапіцца, з ёй трэба судакрануцца, не толькі ў якасці староннягa гледача. Песні, танцы, музыка ў гэтым асяроддзі — нешта адзінае і жывое, і яно нараджаецца і рухаецца ад адчування, якое — унутры. І каб народнае мастацтва не знікала, трэба шмат добрых рук і сэрцаў цёплых...

### А людзі чакаюць...

Гаворка пра міжнародны фэст у Паставах можа быць нескончаная. І каб усё ж яе падсумаваць, звернемся да меркаванняў прэзідэнта фестывалю Тадэвуша СТРУЖЭЦКАГА:

— "Звіняць цымбалы і гармонік" адметны сярод мноства іншых фестываляў тым, што мае сваю канцэпцыю, з'яўляецца не проста святочным мерапрыемствам, а і сур'ёзнай базай для развіцця народна-інструментальнай творчасці, навукі, педагогікі. Навукова-асветніцкія, метадалагічныя мэты фестывалю найбольш поўна рэалізуюцца на занятках творчай лабараторыі, якія ўжо не першы год праводзяцца з удзелам вядучых майстроў народна-інструментальнага мастацтва.

Сёлета працягвалі абмяркоўваць тэму, распачатую яшчэ летась: "Народная музычная культура на мяжы тысячагоддзяў". Лабараторыю вяла кандыдат мастацтвазнаўства Наталля Яканюк. Былі прадстаўлены новыя напрацоўкі майстроў па вырабе музычных інструментаў, новыя рэпертуарныя набыткі ансамбля народных духавых інструментаў Беларускага універсітэта культуры "Гуды" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Грома. Дарэчы, падрыхтаваны ім нотны зборнік для фальклорных інструментальных ансамбляў таксама прэзентаваўся ў Паставах.

Упершыню правялі выстаўку-прэзентацыю прыватных калекцый музычных інструментаў. Збіральнікі такіх незвычайных "экспанатаў", як правіла, і самі — музыкі, або самі майструюць інструменты. Гэтыя людзі прадстаўляюць найкаштоўны і унікальны пласт нашай культуры. Сярод іх — мінскі гарманіст Міхаіл Слізкі, стваральнік "Ліцьвінаў" Уладзімір Бярбераў, гродзенскі энтузіяст Мар'ян Скрамблевіч, віцяблянін Уладзімір Козак (яго інструментамі карыстаюцца і дзіцячыя садкі, і музычныя вучэльні, і "Песняры", і нават расійскі ансамбль Надзеі Бабкінай).

У ліку калекцыянераў — і Анатоль Собаль, дырэктар Пастаўскай ДМШ, мастацкі кіраўнік ансамбля "Паазер'е". Дарэчы, адзначалася 10-годдзе гэтага унікальнага калектыву, спадкаемцы "Груздаўскіх музыкаў", і яго кіраўнік быў узнагароджаны Ганаровым знакам Міністэрства культуры. А вось Акадэмічны народны аркестр імя Жыновіча адзначыў выступленнем у Паставах сваё 70-годдзе. Гэты калектыў і яго мастацкі кіраўнік прафесар Міхаіл Казінец тут заўсёдныя і чаканыя госці. Ансамбль народнай музыкі "Бяседа" Белтэлерадыё (мастацкі кіраўнік Леанід Захлеўны) завітаў на фестываль упершыню, але адразу ж арганічна ўвайшоў у яго атмасферу.

Застаецца толькі шкадаваць, што ўтульнае старажытнае мястэчка мае абмежаваныя магчымасці для прыёму гасцей. Штогод расце колькасць жадаючых прыехаць на фестываль, і мы вымушаны адмаўляць многім выканаўцам-аматарам, нават вартым таго, каб паказацца на міжнародным узроўні.

Склаўшы больш памяркоўны графік фестывальнага жыцця (сустракацца ў Паставах плануем раз на два гады), спадзяёмся ўдасканаліць яго канцэпцыю, прадумаць тэматыку наступных фэстаў — магчыма, прысвячаць свята якому-небудзь пэўнаму інструменту, скажам, цымбалам, папулярным у нас і досыць распаўсюджаным па ўсім свеце. Падумаем наконт удасканалення адбору ўдзельнікаў, асабліва замежных, якія, бывае, не заўсёды адпавядаюць характару пастаўскага фестывалю. І паколькі яму не наканавана "расці ўшыркі", набываць асабліва масавы размах, трэба "расці ўглыб", дамагацца новай, больш высокай якасці, захоўваючы па-свойму прывабную, высакародную камернасць.

Ладкаваць міжнародны фестываль у Паставах наступным летам, як ні шкада, Міністэрства культуры не плануе. Аднак... Аднак традыцыйнае свята трывала ўвайшло ў жыццёвы расклад месцічаў, жыхароў наваколля, многіх музыкаў-аматараў з розных куткоў Беларусі. Таму — дапускаю такую "крамольную" думку, — "калі што", дык міністэрства, наколькі дазволяць магчымасці, падтрымае і ў наступным годзе мясцовую ініцыятыву пастаўчан, якія чакаюць свята...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: фестывальныя згадкі розных гадоў.*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ і з архіва рэдакцыі*



# Не страляйце ў піяніста!

## НАТАТКІ ПРА МАСТАКА АЛЯКСЕЯ КУЗЬМІЧА

Кожны мастак марыць пра персанальную выставу. Прычым пажадана, каб выстава тая мела шырокі розгалас, каб было не ўбіцца ў залу ад жадаючых пабачыць ягоныя новыя, нечаканыя, і старыя, добра вядомыя, творы: каб потым тую падзею доўга памяталі. Да таго ж персаналія — гэта шанц трапіць у афіцыйную анталогію нацыянальнага мастацтва, "зарэзерваваць" месца ў энцыклапедыі. Персанальная выстава можа выявіць новыя грані таленту, а можа і разбурыць "імідж", які доўгі час трымаўся за кошт аднаго-двух удалых твораў, што па сваім часе, так бы мовіць, "трапілі ў дзесятку".

Тое, што сёлета выстаўляў у Палацы мастацтваў Аляксей Кузьміч, выклікае ў мяне складаныя, супярэчлівыя пачуцці. Па-першае, мы такія маштабныя персаналіі бачым не часта. Я не прыхільнік "табелі пра рангі" ў мастацтве, але міжволі падумалася, што ўвесь палац сваімі творамі не займалі ні Васіль Шаранговіч, ні Уладзімір Тоўсцік, ні Леанід Шчамялёў — а іхнія выставы былі прымеркаваныя да юбілеяў, ды і аўтарытэт гэтых асобаў у нашым мастацтве не падлягае сумневу. Выстава Аляксея Кузьміча не юбілейная. Выстава доўжылася месяц і цалкам займала абодва паверхі палаца. Калі браць да ўвагі, якія грошы за арэнду мусіў заплаціць гаспадарам экспазіцыйнай тэрыторыі аўтар альбо ягоныя спонсары, дык ужо адно гэта робіць выставу з'яваю, і з'яваю неардынарнаю. Я, прынамсі, у захапленні ад арганізатарскага таленту Кузьміча, ад ягонай здольнасці "рабіць грошы" альбо знаходзіць іх у патрэбнай колькасці "на стороне". Як бы ні казалі, што "не продается вдохновенье", але класік расійскай літаратуры ўдакладняў: "но можно рукопись продать".

Выставу складалі творы некалькіх дзесяцігоддзяў — сюжэтныя карціны, партрэты, але ў асноўным — "мадонны". Жанчына з дзіцем альбо з дзецьмі ў атачэнні анёлаў альбо на фоне краявіду, якому аўтар надае сімвалічны сэнс, — галоўны змест і асноўны чыннік творчасці мастака. Калегі-мастакі і гледачы, збольшага дасведчаныя ў мастацтве, паставіліся да выставы даволі скептычна. І сапраўды, калі падыходзіць да работ Кузьміча з высокімі крытэрыямі прафесіяналізму, дык паўстае шэраг пытанняў, на якія спадар Аляксей наўрад ці здольны даць уцямны адказ. Як пройдзеш па выставе, дык узнікае думка, што мастак альбо не ведае анатоміі, альбо з нейкіх прычын яе свядома ігнаруе. Спрэчнай падаецца кампазіцыя шмат якіх карцін; муляюць вока жоўты і брунатны колеры, якія аўтар чамусьці шануе больш за ўсе астатнія. Калі Кузьмічу гавораць, што яму варта было б рабіць больш жорсткі адбор твораў, якія ён мае прадставіць на публіку, — мастак адказвае, што яно, маўляў, усё яму ў роўнай ступені дарагое, і з гэтай прычыны нейкі адбор, нейкая іерархія сярод ягоных твораў немагчымыя. "Навошта так многа?" — "Я бачу свае карціны ў сне і раніцою мушу іх пісаць, каб вызваліць душу ад наслання (па-расейску — "наваждения")". Гэткі, скажам так, творчы метад прымушае мастака шмат працаваць і нават не ведаць адпачынку. Іншая справа — ці пераходзіць у гэтым выпадку колькасць у якасць? Каб у гэтай канкрэтнай сітуацыі спраўдзіўся закон дыялектыкі, мастак мусіць мець творчую канцэпцыю. А вось яна ў Аляксея Кузьміча якраз не вельмі ўцямная. Быць бы яму мастаком-самадзейнікам, мастаком-самавукам, прадстаўляць сваёй творчасцю Саюз народных майстроў — дык і праблем названых не было б. Самадзейнік працуе на ўзроўні інтуіцыі, часта згодна прынцыпу "што бачу, тое і пяю", ад яго ніхто не патрабуе складаных разумовых пабудоў. Іншая справа — прафесійнае мастацтва. Тое, што даруецца прадстаўніку так званага "наіўнага мастацтва" ці нават трактуецца як "стыль" і "традыцыя", у творчасці адмыслова адукаванага творцы можа ўспрымацца як сур'ёзная загана. Праўда, сёння межы прафесіяналізму даволі расплывістыя. Нават на абароне дыпломных работ у нашай Акадэміі мастацтваў гледача іншы раз бярэ сумнеў: а ці ўмее дыпломнік увогуле маляваць?.. Безумоўнай вартасцю Аляксея Кузьміча як мастака з'яўляецца ягоная абсалютная шчырасць. Ён закаханы ў сваіх "мадоннаў" (у якасці мадэлі большасці з іх — ягоная жонка). Ён упэўнены, што ягонае мастацва проста неабходнае Народу, Краіне, Чалавецтву, што яно, як тая прыгажосць, выратуе свет. Гэта ўпэўненасць дазваляе яму ісці наперад там, дзе іншы спыніўся б і азірнуўся навокал, перш чым зрабіць наступны крок.

Выстава не надта спадабалася прафесійнікам, але мела пэўны поспех у так званага шараговага гледача. І гэтая акалічнасць прымушае ставіцца да зробленага Аляксеем Кузьмічом усур'ёз, разглядаць ягоных "мадоннаў" як сацыяльна-культурны феномен. Пры ўсёй банальнасці сюжэтаў і выяў Кузьміч мае свайго гледача. І глядач гэты, як мне падаецца. даволі шматлікі. Заўжды знойдзецца нехта, у каго каля ягоных "мадоннаў" і "анёлаў" набяжыць на вочы сляза замілавання. Вось дзеля гэтых канкрэтных людзей і працуе Аляксей Кузьміч. Не дзеля абстрактнага чалавецтва, як лічыць ён сам, а дзеля людзей, якія ў наш прагматычны і даволі жорсткі час не згубілі сентыментальнае ўспрыманне свету. Пры ўсёй крытычнасці стаўлення да ягонай творчасці я мяркую, што без ягоных "мадоннаў" аповед пра наш час не будзе поўным, не будзе аб'ектыўным. Як не будзе аб'ектыўным агляд эпохі "сацыялістычнага рэалізму" без аналізу творчасці мастакоў, што працавалі на перыферыі "вялікага стылю" — малявалі сабе краявіды ды нацюрморты.




Калі ўвесь час біць у адну кропку, дык рана ці позна нешта вартае ўсё ж такі мусіць атрымацца. Пытанне аб марнатраўстве сіл і часу — пытанне ўжо другога кшталту. Бо кожны сам вырашае, на што скарыстоўваць свой час і свае сілы.

У тыя часы, калі сённяшнія Злучаныя Штаты, згодна кінапрадукцыі пра заваёву "Дзікага Захаду" былі краінаю, населенаю ў асноўным каўбоямі і індзейцамі, у салунах (па-нашаму "кафэ-распівачная") часта меліся абвесткі-паперэджанні: "Не страляйце ў піяніста, як бы кепска ён не іграў. Хлопец зарабляе на хлеб як умее". Становішча небаракі-піяніста, якому незадаволены слухач (глядач, чытач) хацеў бы даслаць рэцэнзію ў выглядзе рэвальвернай кулі, — у шырокім, зразумела, сэнсе не такая ўжо рэдкая з'ява ў стасунках мастака і аўдыторыі. Зрэшты, час адбярэ лепшае і вызначыць месца ў анталогіі і свядомасці.

Зрэшты, кожны зарабляе на хлеб як умее.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**



*Перакулены свет. З серыі "Памяці бязвінна забітых"*





## Скарбніцы ведаў

**Немагчыма ўявіць сабе жыццё горада без бібліятэк. Са старажытных часоў яны ўвасаблялі культурны скарб дзяржавы, былі яе гонарам. Першая публічная бібліятэка ў Мінску адкрылася трохі больш за сто гадоў таму. Пытанне аб яе ўладкаванні абмяркоўвалася яшчэ ў 1890 г., але мінскі губернатар не спяшаўся. На адным з прашэнняў аб адкрыцці бібліятэкі ён напісаў: "Хай лепш збіраюць ахвяраванні на будаўніцтва новай царквы. Трэба маліцца, а не паддавацца на спакусы сатаны". Тым не менш падчас падрыхтоўкі да 100-гадовага юбілею Пушкіна прапанова прагрэсіўнай грамадскасці аб адкрыцці публічнай бібліятэкі была пачута. На арганізацыю гараджане сабралі і кнігі, і грошы. У гонар 100-гадовага юбілею вялікага паэта было вырашана прысвоіць бібліятэцы яго імя. І гэта таксама невыпадкова, бо менавіта ў Мінску жыў і працаваў сябар А. Пушкіна, беларускі мастак-рамантык В. Ваньковіч.**

**Адкрыццё бібліятэкі было прызначана на 25 снежня 1900 г., а 27 снежня бібліятэка ўжо сустракала сваіх першых чытачоў. Спачатку "Пушкінка" знаходзілася на Захар'еўскай вул. (зараз пр. Скарыны) у доме ўрача В. Лунца. Пазней на працягу 70-ці гадоў яна знаходзілася на Крышчэнскай, сённяшняй Інтэрнацыянальнай у будынку каля дома ўсё таго ж В. Ваньковіча. Бібліятэка мела свой статут, савет і старшыню. Спачатку кіраўніцтва складалася з гарадской управы, а ў 1904 г. было вырашана прыцягваць да кіраўніцтва гараджан. Нягледзячы на тое, што неабходны для адкрыцця фонд быў сабраны гараджанамі, урад выдзеліў датацыі на набыццё кніг. У 1912 г. налічвалася 1300 чытачоў. У 1916—1917 гг. пастаянным наведвальнікам бібліятэкі быў М. Багдановіч. Галоўнае, што адрознівае сённяшняга чытача ад чытача мінулых дзён, — гэта тое, што карыстанне бібліятэкай было платным. Падпісчыкі ўносілі папярэднюю плату і атрымоўвалі магчымасць карыстацца кнігамі дома.**

**У 1908 г. у Беларусі адзначаўся дзень нараджэння Л. Талстога, а ў 1909 г. агульны сход членаў выбраў класіка ганаровым членам бібліятэкі і паведаміў аб гэтым пісьменніку.**

**У лістападзе 1971 г. абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна заняла новы будынак па вуліцы Гікалы. Пачаўся новы адлік у гісторыі бібліятэкі. Сёння "Пушкінка" з'яўляецца ініцыятарам шматлікіх культурных акцый вобласці і сталіцы. У выніку супрацоўніцтва з культурнымі цэнтрамі замежных краін у Беларусі з 1996 г. працуе Франка-Беларуская зала інфармацыі аб сучаснай Францыі. У 1998 г. да 200-годдзя Пушкіна ў бібліятэцы быў створаны Пушкінскі інфармацыйны цэнтр. У межах клуба "Кніга і мы" адбываюцца літаратурныя сустрэчы, вечарыны, імпрэзы...**

**Мінула стагоддзе пасля заснавання "Пушкінкі", і ў Мінску ўзнікла яшчэ адна публічная бібліятэка ў гонар славутага мысляра, навукоўца, мастака Леанарда да Вінчы. Зарэгістравана яна была ў жніўні 2000 г., а ў лютым 2001 г. пачала прымаць чытачоў. Бібліятэка была заснавана беларускім аддзяленнем грамадскай арганізацыі "Міжнародны цэнтр Рэрыхаў". Пачатак гісторыі бібліятэкі нагадвае гісторыю "Пушкінкі", Першапачатковы фонд складаецца з кніг, падараваных самімі гараджанамі і сябрамі з іншых гарадоў. Ды і ў дадзены момант бібліятэка існуе дзякуючы ахвяраванням. Усе работнікі працуюць бясплатна, а пры неабходнасці аплачваюць камунальныя паслугі.**

**Вялікую дапамогу аказваюць і дзяржаўныя бібліятэкі. Так, напрыклад, бібліятэка Акадэміі навук падаравала сталы і крэслы, Навукова-тэхнічная — паліцы для кніг. Сённяшні фонд бібліятэкі — каля 2500 кніг. Гэта выданні, якія дапамагаюць маральнаму, духоўнаму развіццю чалавека. Як гавораць работнікі бібліятэкі, кнігі старанна адбіраюцца з мэтай найбольш разнастайнага прадстаўлення сусветнай культуры. У фонд уваходзяць сапраўды каштоўныя выданні, напрыклад, фаліянт "Імпрэсіянізму", падараваны адным са спонсараў.**

**Ёсць у бібліятэцы і выставачная зала, дзе ўжо праходзілі выстаўкі рэпрадукцый Леанарда да Вінчы, М. Рэрыха, карцін С. Пыжыкава. Падчас выставы паказваюцца відэафільмы аб мастаках, праводзяцца літаратурныя і музычныя вечарыны.**

**На жаль, бібліятэку імя Леанарда да Вінчы, якая, дарэчы, знаходзіцца на вуліцы Багдановіча, 78, ведаюць пакуль нямногія. Але можна спадзявацца, што праз сто гадоў, як і "Пушкінка", яна стане адной з самых папулярных бібліятэк горада.**

**Л. ГУРМАН**
**М. ФІЛІМОНАВА**

У МЯСЦОВЫХ ЛІТАБ'ЯДНАННЯХ

# "Наддзвінню" — 75

***"Наддзвінне"... Гэтае слова прыйшло ў маё жыццё, калі яшчэ быў школьнікам. Менавіта так называлася літаратурная старонка полацкай газеты, дзе друкаваліся вершы і апавяданні мясцовых аўтараў. З таго школьнага часу запомніў імёны Валянціна Лукшы, Славаміра Хадаронка, Івана Стадольніка, Бэлы Аронінай, Юрыя Лыжына...***

***Потым даведаўся і пра гісторыю гэтага літаб'яднання, былой філіі "Маладняка", звязанага з імёнамі Алеся Звонака, Петруся Броўкі, Анатоля Астрэйкі і іншых.***

***З заміраннем сэрца, вучнем 11-га класа прыйшоў на пасяджэнне "Наддзвіння" разам з сябрамі Аляксандрам Канавалавым і Уладзімірам Варпаховічам у далёкім ужо 1966-м годзе. З тых часоў і па сённяшні дзень лічу сябе "наддзвінцам".***

***Наша роднае літаб'яднанне дало шлях у творчае жыццё Эдуарду Самуйлёнку, Алесю Савіцкаму, Генадзю Бураўкіну. Міхасю Барэйшу, Герману Кірылаву, Леры Сом, Лявону Неўдаху... Тут спялілі свой талент Юрась Касцюк, Змітрок Куніцкі... Плённа працуюць у літаратуры наддзвінцы Надзея Салодкая, Віктар Леаненя, Валянціна Караван, Надзея Ярмак, зусім юныя Таццяна Хмарка, Вольга Каленік, якія былі ўдзельнікамі рэспубліканскага семінара маладых літаратараў у нашым Саюзе пісьменнікаў.***

***Сёння "Наддзвіннем" кіруе Лера Сом, якая пераняла гэту эстаферу ў Германа Кірылава. Віншуючы землякоў з 75-годдзем роднага літаб'яднання, зычу ім творчага пошуку і натхнення, важкіх здабыткаў на літаратурнай ніве.***

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,**
**намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў**

### Змітрок КУНІЦКІ

●

*Плывуць аблокі — ветразі паэтаў:*
*Эпітэты, метафары, сюжэты,*
*Багацця славы і кахання дым.*
*Паэт пад гэтым ветразем —*
*Адзін.*

●

*Пракудзіць студзень:*
*Год пачынаючы,*
*Дажджом напіўся,*
*Нібы гарэлкай.*
*Пра справу сваю не дбаючы,*
*Раскіс, пад нагамі чвякае.*
*Патыхае грыпозным паветрам.*
*Жыць прыдворным сабакам*
*Дрэнна,*
*І скуголіць нялюжыцца*
*Прыкаваным да будкі.*
*Не магу прыстасоўвацца,*
*Не умею быць гнуткім.*
*Схавацца,*
*У нару забіцца хачу.*
*Ды не ўмею.*
*У год Змяі нарадзіўся,*
*А гены не змеевы.*
*Пад зоркамі Скарпіёна*
*Маё жыццё пачалося,*
*А той сябе забівае,*
*Каб не чуць,*
*Як раструшчаць косці.*
*Спрадвеку пытанне адкрытае:*
*Прырода ведае норму?*
*Ці цывілізавана*
*Чалавек сам сабе*
*Наступіў на горла?*
*Як песні*

●

*Час зрывае гадоў незваротныя дні.*
*Спадзяюся, не марна чакаю,*
*Калі мараў маіх разгарацца агні*
*Па небакраю.*

*Калі ночы калматую навалач-цень*
*У нябыт зорка рання адхіліць,*
*Расквітнее напоўніцу радасці дзень*
*На небасхіле.*

*І адзіная думка мой розум вірыць,*
*Кроў бунтуе і сэрца трывожыць;*
*Каб хвіліначку тую наблізіць, маліць*
*Цябе буду, Божа.*

### Надзея САЛОДКАЯ

●

*Так, мне болем прыгорблены плечы,*
*На самоце скуголіць душа,*
*Сполах мараў аб прывідным нечым,*
*І цяжар богадайны Крыжа.*

*Захінуўшыся ўсмешкаю ветлай,*
*Не зманю, бо ад шырасці слоў*
*Нараджаецца спелае лета*
*І ляціць наўздагон стрымгалоў,*

*Апякаючы промнямі памяць*
*Пра ўсё тое, што будзе далей.*
*Прышласць зганіць,*
*а можа, ухваліць*
*І дазволіць яшчэ пасталець?..*

●

*Колькі разоў зазіраю ў былое,*
*Нібы ў бяздонне са стромы,*
*Самае донца, малое-малое*
*Ўгледзеў пагляд бессаромны.*

*Колькі ўсяго! Як у небыць ваконца,*
*Выслана белым туманам,*
*Можна глядзець, узірацца бясконца,*
*Цешыць істоту падманам.*

*Колькі сумненняў! віны! даравання!*
*Там і сваё, і чужое*
*Як толькі строма над прорвай трывае*
*Ў водбліску бледна-ружовым.*

●

*Я дапяла да веры*
*Праз пустэчу і нуль,*
*Праз рыплівыя дзверы*
*Ў нікуды з ніадкуль.*

*Праз гаркоту і шорсткасць*
*Непралітай слязы.*
*Век, вірлівы і жорсткі,*
*Ў беспрасвецці азыз.*

*Укрыжована слова,*
*Выцек чырванню час.*
*На дрыготкіх кавёлах*
*Пахіснуся не раз.*

### Лера СОМ

●

*Ты помніш тое, што у сне*
*Наканаванасцю завецца:*
*Цягнік прыпынку не міне,*
*Пейзаж мяняецца ў акне,*
*І толькі зорка — застаецца.*

●

*Там, у небе — сонца,*
*Тут, у лесе — зграя...*
*Ціха дагарае*
*Там, у небе, сонца...*

*Звязвацца не раю,*
*Паглядзі праз донца:*
*Там, у небе, сонца.*
*Тут, у лесе, зграя.*

●

*Што мне ў табе асэнсоўваць,*
*дурное стагоддзе?*
*Быццам бы змена*
*стагоддзя змяняе людзей...*
*Штосьці будуюць на дурасці,*
*штось — на выгодзе,*
*Побач адна толькі*
*смерць неадступна ідзе.*

*Нам не даруюць ні лепшых,*
*ні горшых учынкаў,*
*Нас за мінулае сёння настойліва б'юць.*
*Браце паэт Там, за кратамі,*
*ёсць аблачынка,*
*Браце мой кат І смяротнікі песні пяюць.*

*Спынім гадзіннік, ды час,*
*што ідзе і праходзіць,*
*Нам не спыніць — ні ў вайне,*
*ні ў сяўбе, ні ў дзяльбе.*
*Што мне ў табе асэнсоўваць,*
*дурное стагоддзе?*
*Ўсе мы — ахвяры і суддзі, твае і табе.*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

не намалюеш — капае. У летніх імклівых лiўняў свая паэзія. Яны што слёзы ў весялухі — мігам высахнуць, і зноў зямля купаецца ў праменнях.

### Плён працы мастакоўскай

Субота стала днём выніковым. Высокае памяшканне школьнай сталоўкі ператварылася ў выставачную залу. Хто на сцены прымацоўваў свае працы ў часовых рамах, хто раскладваў прама на падлозе, хто ставіў пасярод на падстаўках...Некаторыя перавешвалі, незадаволеныя асвятленнем. Некаторыя спазніліся і мусілі шчаміцца між іншых карцін. Стракацела ўваччу ад розных фарбаў, стыляў, школ! Нельга было не паддацца агульнаму ўсхвалявана-ўрачыстаму настрою, і таму я стала часцінкай падрыхтоўчай дзеі, літарай гэтага каляровага алфавіта.

Пакуль працягваўся працэс падрыхтоўкі, я ўспомніла пра свой журналісцкі вопыт і паспрабавала ўзяць інтэрв'ю. Выбрала час, называецца! Усе былі сканцэнтраваны на адным і толькі з ветлівасці не адмахваліся ад мяне, як ад жніўеньскай мухі. А пытанне было такім: «Што не падабаецца ў мастацтве і каля мастацтва?»

Марыя Парыляк-Хофман не любіць фатаграфічнасці і кічу. «Кіч — сама фальшывасць. Ён крычыць: «Купіце мяне!» (Яе працы атэставалі як надзвычай энергетычныя.)

Іван Смалякоў не любіць староннiх вачэй *падчас малявання.*

Малгажата Хвялкоўска не любіць манатоннасці, шаблону ў мысленні. «Калі замнога рамяства, тады брак артыстызму і паветра».

Кастусь Качан не любіць няшчырасці. (Уласныя работы яму падаліся празмерна змрочнымі, ды і збоку хтось заўважыў, што жывапісец злоўжывае чорнай фарбай.) Адносна Беласточчыны сказаў так: «Толькі тут убачыш, наколькі разбэсціла нас сістэма! Людзі, лічы, такія ж, а жывуць непараўнальна лепш. Палі, будынiны, падворкі, могілкі — усё дагледжана!»

Мікола Алейнікаў не любіць, калі не працуецца. Як прыроджаны філосаф, ён тут жа выклаў сваё бачанне творчасці: «Мастак — гэта выканаўца нейчай волі, праваднік ідэі. З сябе нічога ніякімі намаганнямі не дастанеш, пакуль вышэйшая сіла да гэтага не прызаве».

Эдуарду Чубараву, заслужанаму архітэктару Украіны, не даспадобы, калі выпінаецца тэхналогія, ён болей цэніць жывы імпульс. Ды і сама мясціна яму прыемная — у параўнанні з выпаленым украінскім стэпам.

І толькі вегетарыянка Ганна-Луіза, якую празвалі Данаяй, не магла зразумець пытання, бо ёй падабаецца ўсё. Ну, хіба што брак часу турбуе...

Наведвальнікаў — мясцовых жыхароў— няшмат прыйшло. Асноўная маса завітала пасля вячэрняй багаслужбы. Ксёндз нараіў, а хутка і сам прыняў удзел, доўга і зацікаўлена размаўляў з мастачкамі. Мяне гэта прываблівае ў католікаў — не цураюцца культурнага жыцця, не адгароджваюцца ад мірскога. Прыемна паглядзець на манахінь: не ўнураныя, не суровыя, як нашы, а мяккія, усмешлівыя, адкрытыя. І яны паглядзелі выстаўленыя палотны.

Згодна з умовамі пленэру, дзве работы належала пакінуць арганізатарам. І вось пачаўся адбор. Яго рабілі Рычард Божка з Дэрыюшам Клінам. Этычны кодэкс у такіх выпадках патрабуе пакідаць лепшае, аднак лепшага, відавочна, мастакам было шкада. Некаторыя самі прапаноўвалі карціны, якія маюць меншую каштоўнасць. Зрэшты, працы ў большасці прафесійныя, з густам, з прыкметамі індывідуальнасці. Самі мастакі аднадушна адзначылі адну з трох, на першы погляд — сціплых алейных эцюдаў Тэрэзы Маліноўскай-Кофрань (Варшава). Звярнулі ўвагу на своеадметнасць стылю Халіны Хвялкоўскай, што вучылася жывапісу ў Канадзе. Мне асабіста па душы прыйшліся і пяшчотныя акварэлі Гардзіёнак-Кірэевай, і стрыманыя работы Сержука Цімохава (ён малюе алеем на паперы), з іх глыбінёй і загадкавасцю.

Ад паездкі ў мяне засталіся не толькі ўражанні, але і «рэчыўная памяць» — паштоўкі-абразы Божай Маці Ружанастоцкай, мілы парцэлянавы слонік, падараваны пані Гражынай, візітоўкі і здымкі новых сяброў, а яшчэ прывезеныя сушаныя зёлкі. Узімку, п'ючы гарбату, буду ў думках вяртацца да любых куточкаў памежнага краю. Ліповы пышны цвет збірала за кляштарным мурам. Зверабою крыху сарвала падчас першага агніску ў школьным ляску, калі мы толькі знаёміліся. Чабору навыпорвала з травы ў Ліпску, пакуль чакала тратву. І толькі меліса ў мяне будзе свая, з лецішча. Тры плюс адзін — такая атрымліваецца прапорцыя...

***Каля кляштарнага мура,***
***Дзе кожны камень — сведка,***
***Шчаку пагрэла, і пара***
***Не толькі ружа — кветка***

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
*Фота Л. СІЛЬНОВАЙ*

# Перакладчык М. Сяднёва і А. Вярцінскага

*Неяк Масей Сяднёў у інтэрв'ю Леаніду Пранчаку ("ЛіМ" за 3.9.1999 г.), гаворачы пра лёс сваёй паэмы "Цень Янкі Купалы", адзначыў, што яна напісана ў 1946 годзе і тады ж была перакладзена на ўкраінскую мову і надрукавана ва ўкраінскім часопісе "Слово". Пераклад зрабіў Леанід Палтава, які таксама пераклаў для асобнага выдання паэму Анатоля Вярцінскага "Заазер'е". Спыняцца тады на асобе перакладчыка больш дэталёва размоўцам, відаць, не было патрэбы, і яна, гэтая асоба, доўгі час заставалася для мяне загадкай. Не знаходзіў я гэтае імя і ў энцыклапедычных выданнях Украіны. І вось нядаўна трапіў мне ў рукі адзін з чатырох тамоў "Хрэстаматыі ўкраінскай літаратуры", надрукаванай кіеўскім выдавецтвам "Рось" у 1995 годзе, дзе і адшукаў Л. Палтаву. З увагі на тое, што імем гэтым, магчыма, зацікавіўся не толькі я, хачу падаць кароткую звестку пра перакладчыка і арыгінальнага пісьменніка.*

*Леанід Палтава (сапраўднае прозвішча Енсен) нарадзіўся ў 1921 годзе ў Палтаўскай вобласці (адсюль і псеўданім). Да вайны яшчэ паспеў скончыць Нежынскі настаўніцкі інстытут. У час вайны захопнікі вывезлі яго на прымусовую працу ў Нямеччыну. Леаніду пашанцавала перажыць ліхалецце. Працаваў у рэдакцыях украінскіх газет у Новым Ульме (Заходняя Нямеччына) і Парыжы, кіраўніком украінскага аддзела Іспанскага нацыянальнага радыё. У 1958 годзе пераехаў да Амерыкі, дзе таксама працаваў журналістам. Акрамя вершаў, пісаў апавяданні і п'есы, творы для дзяцей. Памёр Л. Палтава ў 1990 годзе.*

*Больш дакладную і цікавейшую інфармацыю пра ўкраінскага паэта-перакладчыка мог, вядома, даць Масей Сяднёў, але не паспеў. Магчыма, хто-небудзь з даследчыкаў, літаратараў вернецца да ўкраінска-беларускіх "узаемін" і раскрые шырэй вобраз гэтага пісьменніка. А сваю сціплую нататку дапаўняю вершам Леаніда Палтавы "Чалавек" у перакладзе Алеся Каско.*

**Антон ЦВЫД**

Леанід ПАЛТАВА

## Чалавек

**_Па бруку, захінуты ў паліто,_**
**_прыгорблены, ідзе няпэўным крокам._**
**_І не ўгадае ў ім ніхто_**
**_ні бацькі, ні героя, ні прарока._**

**_Але кажу сабе: пільней зірні,_**
**_і ўсмешкай прывітай, і дай дарогу._**
**_Бо ці ж не так у небнай глыбіні_**
**_мы бачым хмары — і не бачым Бога?_**




# З Парыжа — да Віцебска...

У сярэдзіне пазамінулага, 19-га, стагоддзя, гэта быў вядомы танцоўшчык, балетмайстар, тэатральны дзеяч, педагог: Марыс Піён. Пачынаў ён у Парыжы, потым працаваў у Польшчы і на Беларусі. З гісторыі вядома, што створаная Піёнам балетная трупа гастралявала ў Вільні, у Мінску і ў Магілёве. Захавала гісторыя і такі факт: у 1845-47 гг. пад кіраўніцтвам гэтага дзеяча харэаграфічнай сцэны актыўна працаваў створаны ім жа Віцебскі тэатр Піёна. (Трэба ж: з Парыжа праз Варшаву, праз Вільню, Мінск ды Магілёў — да ўсё таго ж Віцебска!)

Працуючы з балетнай трупай, ён выкарыстоўваў найноўшыя методыкі навучання. Галоўныя партыі выконваў пераважна сам. Спектаклі ставіў на музыку Ю. Дамсе, К. Курпінскага, Ю. Эльснера... У апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця (памёр ён у 1869 г.) быў дырэктарам тэатра ў Кіеве, потым настаўнікам балетнай школы ў Варшаве.

На адлегласці часу імя Марыса, ці Маўрыцыя, як называлі тут Піёна, зрабілася легендай. І наўрад ці хтосьці з нашых землякоў-сучаснікаў зоймецца архіўнымі пошукамі ды рэканструкцыяй даўно забытых яго пастановак. У гэтым сэнсе больш пашанцавала іншай легендзе французскага паходжання — Марыусу Пеціпа. Ягоная харэаграфія зберагаецца, узнаўляецца, жыве ў сённяшнім рэпертуары балетных тэатраў усяго свету. Не выключэнне і Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі. Прыгадайма, што менавіта харэаграфія Пеціпа легла ў аснову новага спектакля, пастаўленага сёлета мастацкім кіраўніком тэатра Валянцінам Елізар'евым. Гэта, як вядома, "Спячая прыгажуня" на музыку П. Чайкоўскага.

Марыс Піён — не Марыус Пеціпа, хаця ў гэтых імёнаў ёсць пэўнае падабенства. І ўсё ж мы ўшаноўваем сёння малавядомага Піёна, які нарадзіўся роўна 200 гадоў таму і праз нейкі час пакінуў выразны след у гісторыі развіцця музычна-тэатральнай культуры на Беларусі.

**Я. КАРЛІМА**

# ЭЦЮДЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.)*

заўважаць пачаў. Пасля сам з сябе пасмяяўся: адкуль жа быць той сцежцы ад гэтакіх дробненькіх ножак?! Здалося, канечне ж, мне...

А сцежка ўсё адно мроіцца:дужа ж многа мурашак тупацела па гэтай лясной палосцы ў пядзю-паўтары шырынёю. Тупату я, зразумела, не чуў, бо не дадзена чалавечаму вуху пачуць гэтакае. Але ж самі яны, мурашкі, пэўне, чуюць? І столькі ног! І такі шлях!.. Я намерыў ужо дзвесце крокаў. Маіх, чалавечых. А мурашыных?! Нават і злічыць не бяруся А трэба ж дайсці... То схаваецца ручаёк у высокім верасе, то, калі трапіцца на дарозе завал які з ламачча, дык пад яго, як у тунель, уліваецца. А з другога боку выплеснецца — і ўсё бяжыць, бяжыць. І ўсё — туды, туды. Туды? Не-не, пачакай-пачакай — толькі цяпер я прыгледзеўся: бягуць і адтуль, назад. Адно што вяртаюцца не так прытка, бо ўсе цягнуць паклажу нейкую. Іншы раз прыпыняецца такі "грузавічок", вусікі-антэны настаўляе і сустрэчнай мурашцы лёгкім дотыкам да ейных вусікаў штосьці скажа — сігнал падасць. І тады гэтая, што паражняком бегла, падхоплівае паклажу, разварочваецца і нясе ў бок мурашніка, а змораная — таксама мяняе курс і, уліўшыся ў агульны паток, бяжыць, ужо ўлегцы, туды, адкуль толькі што бегла...

Тым часам неўпрыкмет разгарнулася перада мною сасновая дзялянка з маткамі-старадрэвінамі над ёю. І тут заўважыў я, што мурашыная істужка як бы распыляцца пачала: разбягалася і ўвачавідкі радзела.

Ступіў я колькі крокаў у адзін бок, у другі — няма, знікла жывая "дарожка". Але затое позірк мой улавіў яшчэ нешта, больш нечаканае: на сасновай галінцы мурашак пяць ці шэсць "свежавалі" вялізнага, па мурашыных маштабах, зразумела, таўсматага, як абручыкамі перацягнутага, быццам падзеленага на кольцы, вусеня...

Вось гэтак я і дайшоў да разгадкі — праз дзвесце пяцьдзесят крокаў. Мурашкі вялі вайну з вусенем начніцы, соўкі, на гэты раз — хваёвай. Гэта матыль такі. Сам па сабе прыгожы і прывабны, харчуецца нектарам з кветак ды іншымі прысмакамі. А вось "дзеткі" ягоныя, вусені гэтыя самыя, — не прывядзі божа, такія пражэрлівыя,столькі шкоды прыносяць ды ўчыняюць лесу... Бывае, як наплодзяцца — усю зеляніну з'ядаюць... Хоць і яны з выгляду не пачварныя: прыгажосцю сваёй многіх за пояс заткнуць, — да таго ж і "паяскоў" тых не адзін, а з дзесятак, пэўна, у кожнага будзе. Бачылі ж: абручыкі якія ў вусеня. Гэта ўпоперак. А ўздоўж — залюбавацца: поверху, па спінцы, палоска зялёная, ніжэй — белая істужка ідзе, потым зноў — зялёная, спадысподу — жоўты падбой, а паміж двух гэтых колераў, каб не зліваліся, чорная рыска накрэслена — нітачкаю цягнецца... А дзеля чаго прыгажосць? Навошта расфарбоўка такая? А ўсё каб непрыкметна схавацца на сасновай галінцы — усе колеры ёй у тон.

Ды ад мурашак не схаваешся! Не вокам яны бачаць, а вусікамі-антэнамі: сігнал прымаюць ад сваіх разведчыкаў. І — у паход!..

І паўстае мурашыны заслон перад шкоднікам. Бягуць і бягуць мурашкі. Сюды і назад. Сюды і назад... Нясуць здабычу ў мурашнік.

Для лесу — санітарыя.

Для мяне — разгаданая загадка.

А для іх, для мурашак, — дарога жыцця.

Чуеце? — ножкамі, ножкамі — шамаціць, шапоча мурашыны шлях...

### Павучок

Павучок быў маленькі, нават вельмі маленькі. Але апетыт меў павучыны і есці хацеў, як і ўсе павукі. Таму і сядзеў ад самага ранняга ранку, як толькі сонца збольшага збіла расу, у маркотным і самотным чаканні. Сядзеў на беразе свайго, па ягоных мерках, вялізнага павуціннага возера, закінуўшы ў затоку сець, зразумела, таксама павуцінную. А як жа інакш: сам ён павук, хай сабе і маленькі, і ўсё ў яго мусіла быць з павуціны. Нічога іншага ён не меў: ні вады, ні пяньковых нітак, ні капронавых, як цяпер павялося, каб сплесці сетку. Не кажучы ўжо пра які-небудзь перамёт з учэпістымі сталёвымі кіпцюрамі-хапунамі ці хаця б вуду з жылістай лёскай і джалістым кручком... Сядзеў, як сядзіць, бывае, малы хлапчук з самаробнаю вудачкай-свісцёлкай: вудзільна арэхавае, а то і лазовае — амаль што дубчык, лёска — з конскага хваста, паплавок — з гусінага пяра-пішчыка, — сядзіць у чаканні якога-небудзь печкурка ці верхаводкі-ўклейкі... І раптам ухопіцца за нажыўку штосьці вялізнае і здаравеннае...

Гэткая нечаканая ўдача надарылася і павучку. Затрымцела не толькі ягоная сетачка, але і ўся азярына ўскалыхнулася.

Павучок адразу аж спалохаўся, але беспамылкова вызначыў, адкуль накочваюцца гэтыя ўраганныя, як дзевяты вал, хваляванні. Падхапіўся ён, слізгануў па нітачцы павуцінкі да месца здарэння. Сам дробненькі, як чорная расінка, а перад ім — страшыдла разоў у пяць, а то і ў дзесяць, большае за яго, ды і сківіцы — абцугі-кусачкі — не раўня павучковым: драціну сталёвую, здаецца, умэнт перашчыкнуць, а не тое што павуцінку. Ды і сам павучок, такому на зуб не пападайся... Ён адразу ж і зразумеў гэта: пастаяў на бяспечнай адлегласці, прыкінуў, ацаніў свае баявыя магчымасці і ціхенька адкаціўся, слізгануў назад, на ранейшую пазіцыю.

Павучок ведае: цяпер яму спяшацца не варта ды і сэнсу ніякага няма. Цяпер усё зробіць павуцінка. Танюсенькая яна, кволая: махне заграбастай лапкаю ці сківіцай зачэпіць страшыдла — і як не было той павуцінкі... Так то яно так, — але замест яе, парванай, ужо вісне на той лапцы ці на сківіцы дзве альбо тры новыя павуцінкі. І чым больш размахваецца, бушуе страшыдла, тым шчыльней заблытваецца ў павуцінні.Як бач: ужо і на дзве нагі спутаны, і на чатыры, і на ўсе шэсць... А там, глядзіш, і ўжо махаць нечым... Толькі сківіцы яшчэ то разыходзяцца, то сцінаюцца, аж рыпяць, здаецца...

Падбяжыць павучок, калі трапятанне супакойваецца, паглядзіць: не, яшчэ ранавата набліжацца... Так і цікуе, так і цікуе раз за разам...

А страшыдла тым часам знямогла прыбілася ў куточак і варухнуцца не можа, — ажно толькі як ад сораму схавалася: з такімі сківіцамі і так ганебна ў палон здавацца!.. Ды яшчэ каб у палон... А то ж — павучок быў галодны...

Калі б павучок пазнаёміўся са страшыдлам, то даведаўся б, што гэта не хто іншы, як скакун палявы... Яшчэ б і пасябравалі, можа...

Але павучку было не да знаёмстваў: павучок хацеў есці... У-у-у, натура: павучыная — яна і ёсць павучыная...

# “Легенды Вялікага Княства”:

## захаваць рамантычную аўру музычнай спадчыны мінулага

***У рамках афіцыйнага рэліза БМА-груп не так даўно былі праведзены сустрэчы з выдаўцамі і прэзэнтацыя першага дыска з беларускай музыкай Сярэднявечча “Легенды Вялікага Княства”. Такія імпрэзы не маглі абысціся без удзелу сяброў клуба “Рыцараў Вялікага Княства”, выканаўцаў і гуртоў старажытнай ваярскай і рыцарскай музыкі Беларусі...***

***Трэба адзначыць, што перапоўненыя залы, камерцыйны поспех дыска засведчылі плённасць накірунку рэстаўрацыі і папулярызацыі сярэднявечнай музыкі Беларусі, які ўзялі ўкладальнікі дыска. Вельмі прыхільна працу энтузіястаў успрынялі і беларускія музычныя крытыкі, і прафесіяналы, якія займаюцца адраджэннем беларускай музычнай спадчыны. Але былі і скептычныя водгукі, якія, звычайна, пачыналіся па-азаронкаўску безапеляцыйна: “...беларускамоўныя цяперака амаль паталоўна (! — А. М.) настальгуюць па залатой часіне Вялікага Княства Літоўскага”. Як быццам бы размова ідзе не пра гісторыю ўласнай краіны!***

***А што на гэты конт думаюць самі выдаўцы і ўкладальнікі дыска, ці будуць яны надалей трымацца абранай лініі на сваім шляху? З такімі пытаннямі мы звяртаемся да аўтара ідэі і прадзюсера альбома, кіраўніка клуба “Рыцары Вялікага Княства” спадарыні Арыны ВЯЧОРКІ.***




— Пасля выхаду нашага альбома мы апынуліся сярод агню перапалкі паміж навукоўцамі. Але няхай яны паміж сабою вырашаюць свае справы, а мы будзем рабіць працяг сваёй.

Калі ўспомніць, з чаго пачынаўся альбом “Легенды Вялікага Княства”, дык трэба адзначыць, што падчас запісу кантаў, музыкі Бакфарка і Длугара, іншых твораў мы карысталіся зборнікамі, выдадзенымі Універсітэтам культуры і Беларускай кансерваторыяй. Напрыклад, зборнікам “Новая радасць настала”, а таксама “Рэкамендацыямі юнаму гістарысту” В. Жывалеўскага, дзе надрукаваныя ноты многіх п’ес, што трапілі на дыск. Як бачыце, мы самі нічога не выдумлялі!

Крытыкавалі нас і за аранжыроўкі. Але гэта — нашае бачанне музычнай спадчыны, бо, ведаеце, мы займаемся “ажыўленнем” музычных старонак нашай гісторыі. Тое сухое, класічнае, рэканструктыўнае, яно няхай знаходзіцца ў музеях. А нам патрэбна музыка і гісторыя для нашага жыцця, для штодзённага ўжытку нашым сучаснікам.

**— Якімі крытэрыямі вы, як укладальнік дыска, кіраваліся пры падборы твораў для альбома “Легенды Вялікага Княства”?**

— Пры складанні праграмы дыска мы ўлічвалі альбо старажытнасць інструмента, які маглі выкарыстоўваць у тую эпоху, альбо наяўнасць ваярскіх тэкстаў. Часам нас цікавілі старажытныя тэксты, якія былі пакладзены на музыку значна пазней. Напрыклад, як знакамітая балада “Бітва пад Воршай”. Ці, наадварот, як у выпадку з песняй “А дзе ж тыя ваяры...”, калі існавала старажытная мелодыя — знаходка фалькларыстаў, словы да якой напісаў наш сучаснік бард Зміцер Сідаровіч.

Да таго ж, на дыску “Легенды Вялікага Княства” не гучаць электронныя інструменты, акрамя нязначных украпленняў, яго гукавая палітра максімальна набліжана да натуральнай.

А яшчэ мы за тое, каб стварацць свае музычныя легенды. Адсюль і назва нашага дыска. У беларускай гісторыі ёсць столькі таямнічых легендаў і тайнаў, якія, магчыма, і не трэба імкнуцца раскрываць. У выпадку з нашым альбомам, мы хацелі стварыць пласт музычных легенд з вобразамі кампазітараў, якія жылі на нашай зямлі ў старажытныя часы. Ну, а калі некаторыя крытыкі пачынаюць спрэчкі наконт таго ці быў Самуэль Збароўскі мецэнатам Длугара, ці ён быў авантурыстам, тады і разбураецца рамантычная аўра мінуўшчыны.

Акрамя імкнення да рамантызацыі, наш дыск трэба разглядаць і з пункту гледжання фінансавага. “Легенды...” — праект не камерцыйны, але дастаткова самаакупны. Гэта адбылося таму, што мы адбіралі творы, якія найбольш выйгрышна слухаюцца з калонак сучаснага лазернага прайгравальніка.

Гэтым альбомам мы распачалі працу над стварэннем цыкла сярэднявечнай музыкі Беларусі, і гэта сапраўдны прарыў. Бо, напрыклад, папулярызацыя еўрапейскай сярэднявечнай музыкі зайшла досыць далёка. А мы толькі пачынаем гэтую працу: паднялі пласт беларускай музычнай культуры мінуўшчыны, данеслі творы мінулага да маладых слухачоў, паказалі, што іх можна слухаць і выконваць...

А да даследчыкаў у нас асобная просьба — пішыце, выдавайце кнігі, даследаванні з нотамі сярэднявечнай музыкі Беларусі. У гэтым сёння ёсць вялікая патрэба!

**— Відавочна, што ўжо сфармаваўся творчы калектыў, у цэнтры якога, побач са сваімі аднадумцамі, будзеце працаваць і вы, спадарыня Арына. Ці задумваліся вы над перспектывамі развіцця свайго праекта, накіраванага на папулярызацыю старадаўняй беларускай музыкі?**

— І першая перспектыўная задача — каб усім выканаўцам, якія прадстаўлены на альбоме, дапамагчы зрабіць свае сольныя кампакт-дыскі.

Другое. Калі будзе сабраны патрэбны музычны матэрыял, мы гатовы выдаваць другую і трэцюю часткі серыі. Але тое, што мы запланавалі нашым невялічкім калектывам на бліжэйшую будучыню, будзе мець камерцыйны характар — альбом рок-кампазіцый і электроннай музыкі з гістарычнымі элементамі. На гэтым альбоме мы прадставім сучасныя версіі “Полацкага сшытка” і, так бы мовіць, рыцарскую музыку будучыні з электроннымі і камп’ютэрнымі “наваротамі” і гукавымі эфектамі.

Пра склад выканаўцаў, якія будуць працаваць над дыскам, гаварыць пакуль рана. Але ў якасці інтрыгі скажу, што на новым альбоме абавязкова будзе дударская музыка ў выкананні Хведара Кашкурэвіча. Думаю, гэтае імя гаворыць само за сябе!

**Гутарыў**
**Анатоль МЯЛЬГУЙ**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД “ЛіМа”



## Беларускі калегіум

**абвяшчае набор**
**на дадатковае навучанне па спецыялізацыях:**

**журналістыка;**
**найноўшая гісторыя;**
**філасофія/літаратура.**

Запрашаюцца студэнты старэйшых курсаў гуманітарных спецыяльнасцяў альбо асобы з вышэйшай адукацыяй. У выключных выпадках прымаюцца і студэнты малодшых курсаў. Навучэнцамі БК могуць быць толькі асобы, што пастаянна альбо на час навучання пражываюць у Мінску.

Пачатак заняткаў з 1 кастрычніка 2001 г.

Лекцыі Калегіума з’яўляюцца адкрытымі. Асобы, якія сістэматычна наведваюць лекцыі, рэгіструюцца ў якасці вольных слухачоў. Навучальныя праграмы БК арыентаваныя на выкладанне найноўшых фрагментаў сучасных ведаў і не дубліруюць існуючыя праграмы дзяржаўных і недзяржаўных універсітэтаў. Цыкл навучання — 3 гады. Дыплом Калегіума не замяняе дыплом аб вышэйшай адукацыі. **Навучанне ў БК — бясплатнае.**

*Запіс абітурыентаў — па 26 верасня г. г. па тэл. 220-63-36 з 14.00 да 18.00 штодня, акрамя суботы і нядзелі.*

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**аб’яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

*кафедра фартэпіяна*
старшы выкладчык — 1;
*кафедра тэорыі музыкі*
дацэнт — 1;
*кафедра камернага ансамбля*
старшы выкладчык — 1;
*кафедра драўляных духавых інструментаў*
прафесар — 1;
*кафедра альта, віяланчэлі, кантрабаса*
дацэнт — 1;
*кафедра аркестравага дырыжыравання*
дацэнт — 2.

*Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання.*

**Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.**
**Даведкі па тэлефонах: 227-49-42; 226-06-70.**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ’ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**





**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 13.9.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 5301

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12